

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 30 чэрвеня 1989 г. № 26 (3488) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ГУЧАЦЬ РОДНАМУ СЛОВУ!

## Утворана Таварыства беларускай мовы

27 чэрвеня ў Доме літаратара адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы. Каля 300 дэлегатаў яго—пісьменнікі, дзеячы мастацтва і культуры, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, гісторыі, іншых дысцыплін, выкладчыкі сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, служыцелі царквы, рабочыя, калгаснікі практычна з усіх раёнаў рэспублікі—вялі зацікаўленую гаворку аб тым, што неабходна зрабіць у самы бліжэйшы час і ў перспектыве, каб роднае слова адчувала сябе ў рэспубліцы паўнапраўным гаспадаром.

З дакладам выступіў старшыня арганізацыйнага камітэта па стварэнню Таварыства беларускай мовы, першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч.

Дэлегатаў з'езда вітала намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай (тэкст яе выступлення друкуецца ніжэй).

У спрэчках выступілі дырэктар Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР А. Падлужны, доктар філасофскіх навук У. Конан, А. Мальдзіс, настаўніца Я. Мальчэўская (г. Талачын), ксёндз В. Чарняўскі (в. Вішнева Валожынскага раёна), дыспетчар завода шасцерань (Лепель) У. Шушкевіч, гісторык М. Гайдук (ПНР, г. Беласток), настаўнік А. Белакоз (вёска Гудзевічы Мастоўскага раёна), загадчык дзіцячага сада № 376 Г. Прыма (г. Мінск), А. Лойка, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» М. Шавыркін, ксёндз Я. Матусевіч (в. Баруны Ашмянскага раёна), дацэнт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага П. Садоўскі, сакратар Мінскага гаркома партыі П. Краўчанка, арганізатар пазакласнай і пазашкольнай работы Міханавіцкай СШ А. Раманоўскі (Мінскі раён), дацэнт Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. Куляшова Я. Клімуць, загадчык аддзела інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя» А. Трусаў, прадстаўнік цэнтра Беларускай культуры ў Літве В. Стэх (г. Вільнюс), доктар гістарычных навук А. Залескі, выкладчык гісторыі В. Вабішчэвіч (г. п. Давыд-Гарадок Столінскага раёна), выкладчык Полацкага педагагічнага вучылішча М. Пятрэнка, выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага В. Вячорка, рабочы Мінскага аўтазавода П. Змітрук, загадчык сектара літаратуры і мастацтва ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ А. Бутэвіч, навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага АН СССР А. Каўка (г. Масква), настаўнік Я. Цумараў (г. Мінск), Л. Баршчэўскі (г. Наваполацк), выкладчык Беларускага тэхналагічнага інстытута М. Смык, выкладчык БДУ імя У. І. Леніна А. Белы, мастак М. Купава.

Выбрана рада таварыства ў складзе 57 чалавек. Старшынёй рады ТБМ выбраны Н. Гілевіч, намеснікамі старшыні—А. Падлужны, П. Садоўскі, Я. Цумараў.

Быў прыняты зварот да народа Беларусі.

**Наш кар.**



Абмяркоўваюцца важныя пытанні...




Ксёндз В. ЧАРНЯЎСКІ і пісьменнік А. МАЛЬДЗІС.

Фота А. КАЛЯДЫ.

# Прывітальнае слова Н. М. МАЗАЙ

Паважаныя таварышы!

На ўстаноўчы з'езд, які павінен даць пачатак дзейнасці Таварыства беларускай мовы, сабраліся дзеячы навукі і культуры, літаратуры і мастацтва, настаўнікі, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, прадстаўнікі амаль кожнага раёна Беларусі.

Дазвольце мне шчыра павітаць вас, удзельнікаў устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы, і выказаць надзею, што ён стане прыкметнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі.

Апошнім часам усе мы занепакоена абмяркоўваем шматлікія праблемы нашага грамадскага жыцця, тое становішча, у якім апынулася сёння эканоміка і культура краіны. Спрабуем даць адказ на пытанне аб прычынах такога стану, знайсці шляхі да вырашэння вельмі складаных эканамічных, палітычных, міжнацыянальных праблем, якія, як мы бачым сёння, патрабуюць рашучых, неадкладных мер ад дзяржаўных устаноў і вялікіх намаганняў грамадскасці.

У ліку гэтых пытанняў, на адным з першых месц — пытанне аб лёсе роднай мовы, мовы нашай зямлі і яе народа, таго вялікага скарбу, які мы павінны зберагчы, перадаць нашчадкам, без якога наша існаванне як народа немагчыма. Таму кожнага з нас не можа не хваляваць тое, што беларускае слова ўсё часцей прыходзіць да нашых дзяцей з газет і радыё, а не з вуснаў маці. Тое, што не шануем, не беражом яго як належыць. Тое, што марудлівымі тэмпамі мяняюцца адносіны да роднай мовы.

Напрыклад, у сістэме Міністэрства народнай адукацыі БССР яшчэ паўтары тысячы дашкольных устаноў у сельскай мясцовасці, альбо 60 працэнтаў працуюць па праграме толькі з рускай мовай навучання. У апошнія гады не павялічваецца колькасць школ з беларускай мовай, адсутнічаюць такія школы ў г. Мінску, абласных і большасці раённых цэнтраў. Значная частка настаўнікаў-прадметнікаў, настаўнікаў малодшых класаў, выхавацеляў дзіцячых садоў не валодаюць беларускай мовай. Недаравальна, што пакуль не задавальняецца патрэбнасць школ у настаўніках беларускай мовы і літаратуры. Міністэрствам народнай адукацыі БССР, Акадэміяй навук БССР не прымаецца неабходных мер па падрыхтоўцы навуковых і навукова-педагагічных кадраў для выкладчыцкай работы. Толькі 57 працэнтаў выкладчыкаў кафедр беларускай мовы і літаратуры маюць вучоныя званні.

Гэта толькі некаторыя рысы, якія характарызуюць адносіны да роднай мовы, тое становішча, у якім яна знаходзіцца.

Як вам добра вядома, на X пленуме ЦК Кампартыі Беларусі дадзена ацэнка і вызначаны асноўныя меры па карэннаму паляпшэнню стану роднай мовы.

Партыйнымі і савецкімі органамі, міністэрствамі і ведамствамі, творчымі саюзамі, сродкамі масавай інфармацыі і друкам зроблены ў гэтым напрамку пакуль што першыя крокі. Вывяраюцца навучальныя планы агульнаадукацыйных школ, прынята рашэнне аб вывучэнні беларускай мовы ў рускамоўных школах, пачынаючы з першага класа, унесены істотныя змены ў практыку правядзення выпускных экзаменаў, рыхтуюцца падручнікі і метадычныя дапаможнікі. У педагагічных інстытутах, універсітэтах уводзяцца ўступныя экзамены па беларускай мове і літаратуры. Мяркуецца з новага навучальнага года перайсці да выкладання на беларускай мове ўсіх гуманітарных і грамадскіх дысцыплін. Упершыню ўводзіцца абавязковы курс вывучэння беларускай мовы ў тэхнікумах.

Пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР і Саюзе пісьменнікаў БССР працуе школа «Юны літаратар». У Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна адкрыта вячэрняе аддзяленне па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура», арганізавана кафедра методыкі выкладання беларускай мовы, павялічаны прыём студэнтаў на гэтую спецыяльнасць у педагагічныя інстытуты.

Міністэрствам культуры БССР на 1988—1989 гады заключаны дагаворы дзяржаўнага заказу на стварэнне і пастаноўку твораў беларускіх аўтараў, распачата падрыхтоўка да стварэння тэатральных труп, працуючых на беларускай мове.

**(Працяг на стар. 3).**

# Зерне надзеі

## НАТАТКІ З КАНФЕРЭНЦЫІ «НАРОД. КУЛЬТУРА. ПЕРАБУДОВА».

«Без той духоўнай культуры, што вырастае з нацыянальных традыцый, наш родны дом такі ж казённа безаблічны, як нарыхтоўчая кантора, і чалавечай душы ў ім няўтульна».

Гэтыя словы прагучалі ў выступленні першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніла Гілевіча на пачатку рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Народ. Культура. Перабудова». Канферэнцыя, наладжаная творчымі саюзамі Беларусі сумесна з Міністэрствам культуры БССР, Беларускім аддзяленнем Савецкага фонду культуры, вучонымі-гуманітарыямі Акадэміі навук БССР і вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, рэспубліканскімі партыйнымі, савецкімі і прафсаюзнымі органамі, праходзіла ў Мінску 15—16 чэрвеня.

Канферэнцыю адкрыў віцэ-прэзідэнт АН БССР пісьменнік Іван Навуменка. Пры адкрыцці прысутнічаў народны паэт Беларусі Максім Танк.

З дакладамі выступілі міністр культуры БССР Я. Вайтовіч і міністр народнай адукацыі БССР М. Дзямчук.

У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел сакратар ЦК КПБ В. Пячэннікаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай.

Падрабязная справаздача з канферэнцыі была апублікавана ў рэспубліканскім друку. Былі змешчаны ў пераказе асноўныя даклады. Матэрыялы канферэнцыі будуць выпушчаны асобным выданнем. Некаторыя выступленні мяркуецца апублікаваць і ў «ЛіМе». Таму ў гэтых нататках не ставілася задача пераказваць ход канферэнцыі, або спыняцца на асобных дакладах і выступленнях. Хацелася б у нейкай меры раскрыць атмасферу, характар і змест дыскусій.

Калі гаварыць пра агульную атмасферу, дык з традыцыйнага пункту погляду трэба было б пачаць са сцэнічна-мастацкага, так бы мовіць, афармлення канферэнцыі. Напярэдадні і ў перапынках пасяджэнняў у фае Палаца Белсаўпрофа гучала народная музыка, іншы раз — у арыгінальным выкананні вядомых фальклорных калектываў. Удзельнікі канферэнцыі пры жаданні маглі нават паспяваць і патанцаваць разам з музыкантамі. У той жа час кожны мог скарыстацца і апошнімі дасягненнямі НТР—з дапамогай устаноўленых у прэс-цэнтры персанальных камп'ютэраў атрымаць любую даведку адносна складу ўдзельнікаў канферэнцыі або яе тэматыкі. Аднак усё гэта ўспрымалася хутчэй як знешняя атрыбутыка, якая не зусім стасавалася з глыбінёй і сур'ёзнасцю тэмы канферэнцыі.

Што ж датычыць непасрэдна дыскусій, дык гэтае слова можна ўжыць тут досыць умоўна. Справа ў тым, што тэматыка дакладаў і паведамленняў, таксама як і парадак выступленняў, былі вызначаны і ўнесены ў праграму загадзя. Праўда, з-за таго, што многія заяўленыя дакладчыкі не прынялі па розных прычынах удзел у канферэнцыі альбо адмовіліся выступаць, праграму работы давялося скарачаць з трох дзён да двух. Гэта ў сваю чаргу прывяло да таго, што на другі дзень секцыі вымушаны былі працаваць сумесна (па дзве разам у дзвюх залах). Так што часу для абмеркаванняў дакладаў амаль не заставалася. А многія важныя практычныя пытанні наогул не абмяркоўваліся.

Калі ж гаварыць пра змястоўны бок пленарных пасяджэнняў першага дня, то яго можна, бадай, звесці да некалькіх асноўных напрамкаў. Філасофскія аспекты культуры, пытанні маралі, праблемы глыбіннага асэнсавання агульначалавечых каштоўнасцяў, роля нацыянальных духоўных традыцый і месца інтэлігенцыі ў культурным працэсе сталі тэмай выступленняў народнага мастака СССР М. Савіцкага, члена-карэспандэнта АН БССР, дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору С. Марцалева, доктара філасофскіх навук, загадчыка кафедры БДУ імя У. І. Леніна А. Міхайлава і інш.

Аб суадносінах нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў мастацтве, аб захаванні культурнай спадчыны народа і яго нацыянальнай самасвядомасці, моўнай і этнічнай сітуацыі на Беларусі гаварылі, у прыватнасці, доктар мастацтвазнаўства А. Сабалеўскі, доктар філалагічных навук, прафесар Белдзяржуніверсітэта Е. Бондарава, аспірант Мінскага педінстытута імя Горкага С. Мацюнін, доктар філасофскіх навук, загадчык кафедры Брэсцкага інжынерна - будаўнічага інстытута А. Яцкевіч, сакратар парткома саўгаса «Зялёнка» Полацкага раёна Н. Забэла, член-карэспандэнт АН БССР В. Бандарчык.

Няпростыя пытанні гісторыі беларускага народа, праблемы ачышчэння яе ад «белых плям», пазбаўлення ад канцэпцыі сталінскага «Кароткага курса», а таксама праблемы гістарыяграфіі і стварэння новых падручнікаў гаварылі доктар гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі АН БССР М. Біч, доктар гістарычных навук У. Палуян.

На жаль, пры ўсёй актуальнасці ўзнятых праблем, многім выступленням не хапала завостранасці пазіцый, жывасці выкладання, канкрэтнасці прапаноў. Акадэмічная бясстраснасць пленарных пасяджэнняў сур'ёзна парушыла, хіба што, толькі вострая спрэчка вакол пытанняў гісторыі беларускай нацыянальнай сімволікі і геральдыкі.

У пэўнай ступені карціна змянілася пад час работы секцый (тых, прынамсі, на якіх давялося прысутнічаць). Пасяджэнні іх праходзілі, натуральна, у розных залах адначасова. Тут нарэшце з'явілася тая дыялагічнасць, якой так не хапала напярэдадні і пра што гаварылі многія ўдзельнікі канферэнцыі.

Скажам, акадэмік С. Астапчык, які выступіў з дакладам «Маральныя і сацыяльныя аспекты НТР», адразу ж трапіў пад град самых разнапланавых пытанняў. Неадназначна быў прыняты і глыбокі, канцэптуальны даклад доктара філасофскіх навук У. Крукоўскага на вельмі актуальную тэму «Нацыянальная культура і дэмакратыя». Многія яго думкі падтрымаў доктар філасофскіх навук У. Конан, які выступіў з дакладам «Родная мова і фальклор у сістэме сучаснай эстэтычнай культуры народа». Ён выказаў, у прыватнасці, думку, што тэма канферэнцыі — «Народ. Культура. Перабудова» — празмерна шырокая, нават расплывістая. Паводле думкі вучонага, у цэнтр абмеркавання на канферэнцыі трэба было паставіць праблему экалогіі культуры.

Неардынарнасць думкі і нестандартнасць падачы матэрыялу (дэманстраваліся унікальныя слайды) прыцягнулі ўвагу многіх да паведамлення доктара фізіка-матэматычных навук Ю. Хадыкі «Нацыянальныя традыцыі ў беларускім нацыянальным мастацтве на прыкладзе жывапісу мінулага». І тут не магло не збянтэжыць пытанне аднаго з прысутных, які паставіў пад сумненне кампетэнтнасць вучонага ў закранутай праблеме, якога добра ведаюць у рэспубліцы як актыўнага ўдзельніка аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Тэму захавання духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў працягвалі ў сваіх выступленнях начальнік дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў Міністэрства культуры БССР Д. Бубноўскі, кандыдат гістарычных навук А. Трусаў і іншыя. Д. Бубноўскі, у прыватнасці, прапанаваў падрыхтаваць і вынесці на шырокае абмеркаванне праект новага Закона аб ахове помнікаў. А. Трусаў заклікаў адрадзіць часопіс «Наш край», наладзіць выпуск шэрагу спецыяльных энцыклапедычных і папулярных выданняў.

Зацікаўленая гаворка ішла аб праблемах падрыхтоўкі нацыянальных кадраў для школ, тэхнікумаў і вучылішчаў, вышэйшых навучальных устаноў і праблемах дзяржаўнасці беларускай мовы, пашырэння сферы яе ўжытку, аб праблемах матэрыяльнай базы музейнай і бібліятэчнай справы, аб захаванні фальклору, народных рамёстваў і промыслаў.

Паралельна ў актавай зале працавалі праблемныя секцыі гісторыі і мовазнаўства. З дакладамі і паведамленнямі ў час іх работы выступілі гісторыкі А. Грыцкевіч, М. Ермаловіч, І. Юхо, літаратура- і мовазнаўцы А. Анічэнка (Гомель), У. Калеснік (Брэст), А. Лойка, Л. Лыч, А. Мальдзіс А. Падлужны, П. Садоўскі, выкладчыца Магілёўскага культасветвучылішча Т. Раманькова, прафесар Мінскай ВПШ А. Міхневіч, публіцыст В. Якавенка, сакратар Мінскага АК КПБ У. Атрошчанка.

Варта адзначыць, што на канферэнцыі закраналіся і пытанні гісторыі і сучаснага стану культуры нацыянальных меншасцяў на Беларусі. У прыватнасці, на заключным пленарным пасяджэнні з дакладам

# РЭКАМЕНДАЦЫІ

## РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ «НАРОД. КУЛЬТУРА. ПЕРАБУДОВА»

**Удзельнікі канферэнцыі адзначаюць, што распачатая па ініцыятыве Камуністычнай партыі перабудова стала ўсенароднай справай, усё больш настойліва закранае сацыяльна-культурную сферу, міжнацыянальныя адносіны. Аднаўленне ў грамадстве прыярытэтнага значэння духоўнасці, культуры становіцца і павінна быць галоўным і найпершым клопатам партыйных, дзяржаўных, грамадскіх арганізацый, самадзейных фарміраванняў. Патрэбна ажыццявіць рэзкі паварот ад тэхнакратызацыі да гуманізацыі грамадства, поўнасцю аднавіць і ўзбагаціць марксісцка-ленінскія прынцыпы гуманізму, першаснасць агульначалавечых каштоўнасцей і ідэалаў сацыялізму.**

На канферэнцыі справядліва адзначаліся тыя нягоды і праблемы, што не абмінулі сферу культуры. Многія з такіх праблем звязаны з адыходам ад ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі, з усталяваннем адміністрацыйна-загадных метадаў кіравання. Непапраўную шкоду беларускай культуры, роўна як і рускай, як і і ўсім культурам братніх народаў СССР, нанеслі беспадстаўныя і жорсткія сталінскія рэпрэсіі. Другарадная роля адводзілася культуры і ў гады застою.

Працэс перабудовы, дэмакратызацыі, публічнасці востра і настойліва паставіў пытанне аб павышэнні ролі духоўнасці ў ідэйным, эстэтычным і маральным выхаванні чалавека, аб удасканаленні культурнай палітыкі, аб неабходнасці гуманізацыі грамадства, што патрабуе вяртання да ленінскіх прынцыпаў пабудовы сацыялізму. Неабходна павысіць ролю і месца роднай мовы і фальклору ў сістэме эстэтычнай культуры, ролю традыцый і навацый у распрацоўцы рытуалу савецкіх свят і абрадаў, ролю тэатральнага, музычнага і іншых відаў мастацтва ў духоўным жыцці народа, асэнсаваць і заканадаўча вырашыць праблемы захавання, рэстаўрацыі і актыўнага выкарыстання помнікаў матэрыяльнай культуры і інш. А калі сфармуляваць у больш агульным выглядзе, то на сённяшні момант востра паўстае пытанне экалогіі культуры ў святле экалогіі чалавека.

Зыходзячы з гэтага ўдзельнікі канферэнцыі лічаць неабходным:

1. Органам культуры, народнай адукацыі, навуковым установам, творчым саюзам у цесным супрацоўніцтве з партыйнымі і савецкімі органамі на аснове глыбокага аналізу стану спраў у культурнай сферы і ў адпаведнасці з прынцыпамі ленінскай нацыянальнай палітыкі распрацаваць сучасную, навукова абгрунтаваную канцэпцыю далейшага развіцця нацыянальнай культуры, звярнуўшы асаблівую ўвагу на сувязь яе з народнымі вытокамі, нацыянальнымі традыцыямі. Стварыць неабходныя ўмовы для поўнага і свабоднага ўзбагачэння беларускай культуры лепшымі дасягненнямі культур братніх народаў. Шырока выкарыстоўваць магчымасці літаратуры і мастацтва ў выхаванні нацыянальнай самасвядомасці народа, яго сапраўдных інтэрнацыяналісцкіх пачуццяў. Лічыць найпершым абавязкам умацаванне дружбы паміж народамі нашай краіны, пашырэнне і развіццё культурных узаемасувязяў.

Акадэміі навук БССР каардынаваць і сур'ёзным чынам палепшыць распрацоўку актуальных пытанняў беларускай культуры, яе гісторыі і перспектыў развіцця.

Падтрымаць ідэю правядзення аб'яднанага пленума праўленняў творчых саюзаў, на якім трэба абмеркаваць ролю і месца мастацкай інтэлігенцыі ў перабудове, яе ўдзел ва ўзбагачэнні духоўнага жыцця народа, выпрацоўцы і ажыццяўленні культурнай палітыкі на сучасным этапе.

Правесці рэспубліканскі актыў па пытаннях культуры, на якім глыбока і ўсебакова прааналізаваць стан і перспектывы развіцця беларускай культуры, вызначыць прынцыпы грамадска-дзяржаўнага кіравання гэтай сферай. З удзелам грамадскасці падрыхтаваць грунтоўны дакумент па гэтых пытаннях.

2. Органам культуры, народнай адукацыі, навуковым установам, грамадскім і самадзейным фарміраванням, творчай інтэлігенцыі прыняць актыўны ўдзел у распрацоўцы доўгатэрміновых шматпланавых праграм «Родная мова» і «Спадчына». Апублікаваць іх праекты для ўсенароднага абмеркавання. Згадзіцца ў цэлым з прапанаванымі ўдзельнікам канферэнцыі праектамі асноўных напрамкаў праграм «Родная мова» і «Спадчына».

Для больш поўнага ўліку пажаданняў грамадскасці абмеркаваць канцэпцыі і змест гэтых праграм на аб'яднаным пленуме праўленняў творчых саюзаў.

3. Удзельнікі канферэнцыі далучаюцца да рашэння пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР аб усямерным паляпшэнні вывучэння і выкарыстання беларускай мовы, стварэнні неабходных умоў для таго, каб надаць ёй статус дзяржаўнай мовы пры захаванні за рускай мовай статуса мовы міжнацыянальных зносін.

З гэтай мэтай неабходна разгарнуць масавую растлумачальную і прапагандысцкую работу сярод насельніцтва, фарміраваць грамадскую думку для хутчэйшага вырашэння данай праблемы.

Прасіць таксама Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР перагледзець Закон БССР «Аб народнай адукацыі» ў дастасаванні да вывучэння школьнікамі беларускай мовы па жаданню бацькоў. Пры вывучэнні беларускай мовы захоўваць прынцыпы паслядоўнўасці і пераемнасці ад дзіцячага сада да вышэйшай навучальнай установы. Пашыраць выкарыстанне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, на практыцы забяспечыць нацыянальна-рускае двухмоўе.

Настойліва весці справу да таго, каб усе жыхары рэспублікі добра валодалі рускай і беларускай мовамі, свабодна імі карысталіся.

Удзельнікі канферэнцыі заклікаюць вучоных, літаратараў да настойлівай працы над падручнікамі і дапаможнікамі для тых, хто жадае вывучаць беларускую мову, над стварэннем беларуска - руска-іншамоўных слоўнікаў.

Удзельнікі канферэнцыі падтрымліваюць ідэю стварэння ў рэспубліцы Таварыства беларускай мовы. Органам культуры, народнай адукацыі, навуковым установам неабходна аказваць усебаковую падтрымку яго дзейнасці.

4. Канферэнцыя выказваецца за рашучае выпраўленне становішча ў адносінах да фальклору, да народных звычаяў і традыцый, да захавання і развіцця народных промыслаў і лічыць вартым падтрымаць ідэю стварэння рэспубліканскага і рэгіянальных цэнтраў фальклору, рэспубліканскага цэнтра народных рамёстваў. Неабходна распрацаваць таксама каляндар народных свят і абрадаў.

Канферэнцыя лічыць мэтазгодным звярнуцца ў Міністэрства народнай адукацыі БССР з прапановамі аб паляпшэнні і пашырэнні выкладання і вывучэння фальклору і этнаграфіі. Усяляк падтрымліваць працу вучоных, дзеячаў літаратуры і мастацтва над стварэннем адпаведных падручнікаў, дапаможнікаў.

Міністэрству культуры БССР, Беларускаму аддзяленню Савецкага фонду культуры разам з грамадскасцю неабходна выявіць усе народныя промыслы ў рэспубліцы, забяспечыць іх захаванне і ўмовы для развіцця, стварыць школы, гурткі і г. д. для перадачы народнага ўмельства моладзі.

5. Зыходзячы з рэальнага становішча спраў, удзельнікі канферэнцыі выказваюць заклапочанасць станам развіцця гістарычнай навукі ў рэспубліцы.

Абавязак вучоных — напісаць аб'ектыўную, грунтоўную гісторыю беларускага народа ад старажытных часоў да сённяшніх дзён, стварыць новыя падручнікі і вучэбныя дапаможні-

«Яўрэйская культура на Беларусі» выступіў літаратуразнавец С. Букчын.

Вынікі работы ў секцыях падсумавалі акадэмік М. Бірыла і член-карэспандэнт АН БССР С. Марцалеў.

У ЗАКЛЮЧЭННЕ хацелася б сказаць вось аб чым. Так здарылася, што канферэнцыя, якой доўга чакалі ў нашай рэспубліцы, на якую ўскладалі немалыя спадзяванні, праходзіла неўзабаве пасля З'езда народных дэпутатаў СССР. Дарэчы тут будзе сказаць, што і сярод удзельнікаў канферэнцыі былі народныя дэпутаты. Таму міжволі, а часта зусім свядома, многія параўноўвалі канферэнцыю з высокім форумам у Маскве, гаварылі пра гэта і з трыбуны. Водгалас тых зусім яшчэ нядаўніх падзей і дыскусій прагучаў, у прыватнасці, у палеміцы, якая нечакана ўспыхнула на канферэнцыі паміж старшынёй калгаса У. Бядулем і доктарам фізіка-матэматычных навук Ю. Хадыкам. На жаль, спробы заглушаць апладысментамі некаторых выступаючых, дэманстрацыя нежадання слухаць апанента і непавага да чужога меркавання з боку ўдзельнікаў канферэнцыі па культуры(!) прымусілі ўспомніць практыку «падаўляючай большасці» на З'ездзе. І ўсё ж, думаецца, уздзеянне З'езда народных дэпутатаў больш праяўлялася ў іншым. Яно было ў адмаўленні ў многіх выпадках ад спрошчанага падыходу да складаных праблем культуры, у нежаданні слухаць «прапісныя ісціны» і пустыя справаздачы, ад каго б яны ні зыходзілі, у спробе ўзняцца вышэй групавых, вузкапрафесійных або прыватных інтарэсаў, адмовіцца ад старых стэрэатыпаў, а самае галоўнае — узяцца за справу. І нават тая незадаволенасць, якая засталася ў многіх удзельнікаў пасля канферэнцыі, сведчыць, што справа абавязкова скранецца з мёртвай кропкі. У гэтай незадаволенасці, нераўнадушшы — зерне надзеі.

**Віталь ТАРАС.**

**кі. Неабходна выдаць гістарычную спадчыну беларускага народа, падрыхтаваць зборнікі дакументаў і матэрыялаў па актуальных пытаннях гісторыі.**

**Шырока разгарнуць краязнаўчы рух, стварэнне дзяржаўных і грамадскіх музеяў у гарадах, раёнах, на прадпрыемствах, у навучальных установах. Падтрымаць ідэю правядзення ў 1989 годзе рэспубліканскай канферэнцыі па краязнаўстве. Стварыць у рэспубліцы добраахвотнае таварыства краязнаўства. Распрацаваць з удзелам шырокай грамадскасці закон аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.**

**Увайсці з хадайніцтвам у АН БССР, іншыя інстанцыі з прапановай аб усебаковым і аб'ектыўным аналізе спадчыны дзеячаў нацыянальнай гісторыі, навукі і культуры 20—40-х гадоў, якія да гэтага часу не атрымалі грунтоўнай ацэнкі.**

**Працягваць перагляд спраў і рэабілітацыю бязвінна загінуўшых у гады сталінскіх рэпрэсій, прымаць меры па ўшанаванню іх памяці.**

**6. Арганізаваць работу па выяўленню, вяртанню культурных каштоўнасцей беларускага народа, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі, у фонды Беларусі.**

**7. Канферэнцыя лічыць мэтазгодным даручыць аргкамітэту прааналізаваць усе прапановы і крытычныя заўвагі, што прагучалі ў дакладах і выступленнях, згрупаваць іх і адрасаваць Міністэрству народнай адукацыі БССР і Міністэрству культуры БССР для ўключэння ў праграмы «Родная мова» і «Спадчына», а таксама перадаць узнятыя праблемы для іх практычнага вырашэння ў міністэрствы, ведамствы і іншыя інстанцыі.**

**Удзельнікі канферэнцыі выказваюцца за выданне асобным зборнікам яе матэрыялаў.**

# Імем перабудовы

**24—25 чэрвеня ў вільнюскім Палацы прафсаюзаў адбыўся Устаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне». На ім прысутнічалі больш за 400 дэлегатаў, шматлікія госці, прадстаўнікі рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных сродкаў масавай інфармацыі.**

З'езд выявіў (хоць увогуле гэта было вядома і раней), тую акалічнасць, што ў БНФ аб'яднаны розныя плыні грамадскай думкі, розныя сацыяльныя і нацыянальныя групы Беларусі; і што людзі, сапраўды зацікаўленыя ў абнаўленні Бацькаўшчыны, могуць у рэшце рэшт паміж сабою паразумецца. Бо, нягледзячы на вельмі эмацыянальныя дыскусіі і нават канфліктныя сітуацыі, якія ўзнікалі на працягу гэтых двух дзён, мэту сваю з'езд выканаў — пасля гарачага абмеркавання прыняў статут і праграму руху, абраў кіруючыя органы.

Устаноўчы з'езд віталі прадстаўнікі дэмакратычных рухаў з розных рэгіёнаў краіны. Прывітальныя тэлеграмы даслалі народныя пісьменнікі Беларусі Пімен Панчанка і Янка Брыль, народныя дэпутаты СССР Мікалай Ігнатовіч, Юрый Афанасьеў, Юрый Каракін і Алесь Адамовіч. З трыбуны з'езда быў зачытаны тэкст выступлення народнага дэпутата СССР, народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Выступілі на з'ездзе дэпутаты Станіслаў Шушкевіч і Аляксандр Жураўлёў, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, член-карэспандэнт АН БССР Васіль Несцярэнка, доктар эканамічных навук Барыс Ракіцкі (Масква) і іншыя.

Пасля зацвярджэння з'ездам статута і праграмы БНФ адбыліся выбары ў сойм, у рэвізійную камісію, а таксама выбары старшыні сойму і двух яго намеснікаў.

У склад сойму абрана 55 чалавек. Сярод іх рабочыя і навукоўцы, пісьменнікі і мастакі, прадстаўнікі беларускіх суполак, якія існуюць у Літве, Латвіі, Эстоніі, Маскве, Беласточчыне. З сямі чалавек складаецца рэвізійная камісія БНФ. Старшынёй сойма абраны археолаг і публіцыст Зянон Пазняк. Намеснікамі старшыні — доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў і доктар фізіка-матэматычных навук Юрый Хадыка.

З'езд абмеркаваў распрацаваны рабочай групай ініцыятыўны праект Закона аб выбарах у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы БССР. Прыняты зварот да народаў СССР і краін-членаў ААН з просьбай аб аказанні дапамогі Беларусі ў ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі, а таксама шэраг рэзалюцый: «Аб дзяржаўнасці беларускай мовы», «Аб міжнацыянальных адносінах на Беларусі», «Аб свабодзе сумлення і беларусізацыі рэлігійнага жыцця на Беларусі», «Аб беларуска-літоўскіх дачыненнях» і інш.

Першым дакументам, распрацаваным соймам БНФ і зацверджаным з'ездам, стаў «Зварот да грамадзян Беларусі».

У час работы з'езда адбылася прэс-канферэнцыя на тэму «Беларускі народны фронт і грамадска-палітычная сітуацыя ў рэспубліцы». Частка дэлегатаў і гасцей з'езда прысутнічалі на беларускамоўным набажэнстве ў віленскім касцёле святога Мікалая. У Палацы прафсаюзаў была разгорнута мастацкая выстаўка, прысвечаная гісторыі Беларусі і балючым пытанням сённяшняга дня. Фотавыстаўка адлюстроўвала шэраг падзей грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі, крокі станаўлення БНФ.

Нягледзячы на пэўныя цяжкасці і непазбежныя «хваробы росту» Беларускі народны фронт аформіўся арганізацыйна. Дзіця перабудовы, ён закліканы спрыяць перабудове, уносіць свой уклад у абноўленае грамадскага жыцця рэспублікі.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**
**спецкар «ЛіМа».**

# БЮРО ГАРКОМА ВЫРАШЫЛА

**«Беларускай мове — статус дзяржаўнай»,—з такой прапановай вырашыла звярнуцца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР бюро Мінскага ГК КПБ.**

Пасяджэнне бюро пачалося з абмеркавання, здавалася, сёння ўжо звычайнага пытання «Аб далейшым развіцці руска-беларускага двухмоўя ў сферы культуры і народнай адукацыі». З дакладам выступіў член бюро ГК КПБ, сакратар СП БССР В. Зуёнак, пасля слова ўзяла начальнік упраўлення народнай адукацыі Мінгарвыканкома Т. Драздовіч. Лічбы і факты, якія яны прывялі, занадта сумныя, каб маглі настроіць прысутных на вясёлы лад. Праўда, зрухі ёсць, але праблем значна больш. Дапусцім, у 1989/90 гг. у горадзе плануецца стварыць 8 беларускіх школ. Дасягненне? Без сумнення. Але як выцягнуць такі воз, калі не хапае настаўнікаў, падручнікаў і... вучняў. Пры наяўным звужэнні сферы выкарыстання беларускай мовы бацькі не хочуць аддаваць дзяцей у беларускія школы і не бачаць перспектывы ў іх адкрыцці.

— Пытанне сёння набывае незвычайную вастрыню,— сказаў першы сакратар гаркома партыі У. Р. Галко. — Тое, што адбылося ў Беларусі і ў нашым горадзе з роднай мовай — нонсенс: мы, беларусы, не ведаем сваёй мовы. Пытанне вырашаецца звышскладана: з вялікай цяжкасцю адкрываем 8 школ, а наша мэта — у кожным раёне горада абавязкова мець адну беларускую школу.

Начальніку ўпраўлення народнай адукацыі Мінгарвыканкома давялося адказваць на канкрэтныя пытанні: калі само ўпраўленне рэальна зможа перайсці на родную мову? Калі на беларускую мову будуць пераведзены школы горада? Ці ўкамплектаваны вучнямі 8 беларускіх школ? Якую канкрэтную работу праводзіць упраўленне сярод бацькоў, дзеці якіх пойдуць у беларускія школы?

Пра нялёгкія шляхі выпраўлення памылак і дэфармацый, дапушчаных у свой час у моўнай сферы, пра крызісную сітуацыю беларускай мовы гаварылі першы сакратар Мінскага ГК ЛКСМ Беларусі В. Гардзіеня, старшыня Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, пісьменнік Б. Сачанка. Сваімі меркаваннямі аб наданні дзяржаўнага статуса беларускай мове падзяліліся міністр народнай адукацыі БССР М. І. Дзямчук, рэктар БДУ імя У. І. Леніна Л. І. Кісялеўскі, рэктар Беларускага тэхналагічнага інстытута І. М. Жарскі.

Рэктары вышэйшых навучальных устаноў прыйшлі да вываду: без надання дзяржаўнага статуса праблему з мовай вырашыць немагчыма, усе нашы іншыя захады нагадваюць касметычныя сродкі, якія могуць толькі крыху нешта падфарбаваць, але не выправіць.

Удзел у размове прыняў сакратар гаркома партыі П. К. Краўчанка. Яго выступленне па аналітычнасці і аргументацыі больш нагадвала садаклад. Ён нагадаў, што яшчэ 19 чэрвеня 1987 года на пленуме гаркома партыі разглядаліся пытанні выкарыстання ў горадзе беларускай мовы, захавання спадчыны народа і яго культуры. Чалавечая і службовая абыякавасць, падкрэсліў П. Краўчанка, наша індыферэнтнасць і прывялі нас да сённяшняй моўнай сітуацыі. Мы не павінны чакаць, пакуль дзяржаўны статус роднай мовы стане рэчаіснасцю, мы павінны працаваць. Перавод мінскіх школ на беларускую мову навучання — гэта толькі пачатак вялікай работы, якая павінна надалей набываць тэмпы. Родная мова ў горадзе павінна жыць паўнакроўным жыццём, павінна загучаць у грамадскіх месцах: на транспарце, у службах быту і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, на прадпрыемствах грамадскага харчавання, не гаворачы ўжо пра сферы культуры і народнай адукацыі. Начальнікі ўсіх упраўленняў гарвыканкома пабылі ў гаркоме партыі і завізіравалі дакументы, якія прадугледжваюць канкрэтныя захады па пашырэнні сферы ўжытку роднай мовы. У рускамоўным выданні «Вячэрняга Мінска» тэматычная паласа «З родных крыніц» перакладзена на беларускую мову, там жа адкрываецца завочная школа для тых мінчан, якія жадаюць авалодаць беларускай мовай. Мы не маем права чакаць: калі ў бліжэйшы час становішча з роднай мовай не будзе выпраўлена, нас можа напаткаць катастрофа. На думку сакратара, усю работу трэба весці паслядоўна і культурна, і мінчане павінны зразумець тую вялікую адказнасць, якую нясём мы сёння разам за лёс нацыянальнай мовы і культуры.

Бюро Мінскага ГК КП Беларусі выказалася за наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай. Як заўважыў у сваім выступленні рэктар Белдзяржкансерваторыі М. А. Казінец, гэта вельмі сімвалічна: сталічны гарком партыі першым сярод партарганізацый рэспублікі прыняў такое важнае рашэнне.

**В. ЛАПЦІК.**

# ПЕРАХОД НА БЕЛАРУСКАМОЎНАЕ СПРАВАВОДСТВА

**На пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры БССР разгледжана пытанне аб мерах па павышэнні ролі беларускай мовы ў развіцці нацыянальнай культуры і мастацтва. Даклад аб праграме пераводу ўстаноў культуры на беларускую мову зрабіў намеснік міністра культуры У. Матвееў. Ішла таксама гутарка аб вяртанні роднай мовы ў навучальныя ўстановы, якія знаходзяцца ў сістэме Міністэрства культуры. У абмеркаванні, якое вёў старшыня калегіі, міністр культуры Я. Вайтовіч, прынялі ўдзел У. Гілеп, Я. Сахута, В. Валадзько, У. Скараходаў, Н. Загорская, І. Чыгрынаў, !. Загрышаў, С. Законнікаў, А. Вярцінскі, А. Гурскі, М. Казінец, В. Тураў, Л. Хадкевіч. Прынята рашэнне аб стварэнні моўнай камісіі з ліку членаў калегіі і работнікаў міністэрства для каардынацыі работы і кантролю за выкананнем пастаноў, якія маюць дачыненне да пераводу ўстаноў культуры на беларускую мову.**

**НАШ КАР.**

# ГУЧАЦЬ РОДНАМУ СЛОВУ!

**(Пачатак на стар. 1).**

На рэспубліканскім тэлебачанні і радыё арганізаваны новыя рубрыкі і цыклы перадач па праблемах развіцця і павышэнню ролі беларускай мовы ў духоўным жыцці рэспублікі.

Гэта адзін бок справы.

Па-другое, неабходна пачаць сур'ёзную і канкрэтную практычную работу па пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы. Бо родная мова гэта не толькі выкладанне ў школе, але размова ў сям'і, на вуліцы, у дзіцячым садку малых і дарослых на працы, ужыванне роднай мовы органамі дзяржаўнага кіравання.

Зараз важным пытаннем, якое абмяркоўваецца вельмі актыўна, з'яўляецца вызначэнне статуса беларускай, рускай і іншых моў у нашай рэспубліцы.

Патрабуе значна большай увагі асветніцкая, тлумачальная праца сярод насельніцтва рэспублікі, каб данесці да сэрца і розуму кожнага веліч роднай мовы, адказнасць за яе будучыню, пашану да яе.

Па сваёй сутнасці праграмамі адраджэння беларускай мовы, нашай нацыянальнай культуры павінны стаць рэспубліканскія праграмы «Родная мова» і «Спадчына», распрацоўку якіх вядуць дзяржаўныя, навуковыя і грамадскія арганізацыі.

Яны патрабуюць ад партыйных і савецкіх органаў, творчых саюзаў, усіх, хто неабыякавы да лёсу роднай мовы, карпатлівай паўсядзённай працы: працы дзяржаўнай, навуковай, асветніцкай, прапагандысцкай.

Улічваючы гэтыя акалічнасці, а таксама і пажаданні грамадскасці, ствараем мы сёння Рэспубліканскае таварыства беларускай мовы. Сваёй галоўнай мэтай таварыства ставіць пашырэнне ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, усебаковае яе развіццё, захаванне яе самабытнасці і чысціні, зберажэнне і развіццё нацыянальнай культуры і народных традыцый. Гэта высакародныя мэты, якія, будзем спадзявацца, аб'яднаюць людзей нераўнадушных, тых, хто не толькі сам шануе родную мову, але і гатовы дапамагчы іншым пранікнуцца глыбокай павагай да яе.

Дазвольце пажадаць таварыству, усім, хто лічыць сябе яго сябрамі, плённай, цікавай працы.

# БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ — СТАТУС ДЗЯРЖАЎНАЙ

**АГЛЯД ПОШТЫ**

НЕ АДКРЫВАЮЧЫ вялікага сакрэту, скажам адразу: значная частка лімаўскай пошты апошняга часу прысвячаецца праблеме нацыянальна - культурнага адраджэння, у прыватнасці, моўнай праблеме. Розныя людзі, розныя почыркі, розныя па сваім характары лісты — лісты - споведзі, лісты - даследаванні, лісты - патрабаванні, лісты - прапановы, лісты - рэплікі, — а змест, а галоўны сэнс, за рэдкім выключэннем, усё адзін і той жа: надышоў момант ісціны, момант аднаўлення гістарычнай справядлівасці, павінна быць вырашана, прытым тэрмінова, пытанне аб статусе беларускай мовы. Адзін з нашых старэйшых чытачоў, ветэран вайны і працы **Яфім Іванавіч Кохан** (жыве ў г. Багародзіцк Тульскай вобласці) так і назваў свой ліст: «Безумоўная гаворка на моўную тэму». «Справа перабудовы, справа ачышчэння сацыялізму ад нездаровых дэфармацый патрабуе вярнуць беларускай мове дзяржаўны статус, дадзены ёй Кастрычнікам, Леніным, Савецкай уладай і адабраны потым сталіншчынай і застойшчынай, — піша Я. Кохан. — У нас ёсць два вопыты. Першы вопыт адраджэння мовы і другі вопыт выраджэння мовы. Зараз перабудова вымагае выбраць першы вопыт, першы шлях. Праўда, прыхільнікі другога вопыту спрабуюць аспрэчваць аксіёму, ставяць палкі ў калёсы перабудовы. Трэба змагацца, трэба даваць ім адпор». «Піша вам чытач «ЛіМа» **Куксаў Рыгор Уладзіміравіч,** — наступны ліст.—Мне 40 год. Працую тэхнолагам па зварцы. Жанаты. Маю трое дзяцей. Жонка — настаўніца беларускай мовы і літаратуры. З вялікай цікавасцю сочым за дыскусіяй, прысвечанай становішчу роднай мовы, вельмі ўдзячны вам за артыкулы Пімена Панчанкі, Генрыха Далідовіча, Ніла Гілевіча, Галіны Айзенштат, гісторыка Леаніда Лыча. Хацеў бы сказаць вось што. У нас выдаюцца розныя ўказы, якія як быццам скіраваны супраць «парушэння законных правоў грамадзян» (Указ ад 31.03.89 г.). А ці не лепш было б выдаць указ аб праве грамадзян рэспублікі карыстацца паўсюдна сваёй мовай?» А вось ліст з Маладзечна. Аўтар яго рабочы **Сысун Валянцін Мацвеевіч.** «Калі мне прыходзіцца пагаварыць на добрай беларускай мове, то павышаецца настрой і на ўсе нягоды гляджу больш аптымістычна, — піша В. Сысун. — Я цалкам падтрымліваю тыя публікацыі, дзе гаворыцца аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Рашэнне аб гэтым адкладваць далей нельга. На працягу тысячагадовай гісторыі беларусы захавалі сваю мову і культуру. А за некалькі дзесяткаў год мы страцілі амаль усё. Дзяржава ў вялікім даўгу перад беларускім народам і яго культурай, і гэты доўг пара вяртаць». «Прачытаў праект праграмы моўнай камісіі Беларускага фонду культуры і атрымаў глыбокае задавальненне як грамадзянін, — паведамляе журналіст, супрацоўнік газеты «Гродненская правда» **Лявон Вашко.** — Зараз галоўнае ў тым, каб надрукаванае ажыццявіць, каб адраджэнне роднай мовы стала рэальнасцю. Асаблівай увагі заслугоўвае пытанне аб дзяржаўнасці мовы ў межах рэспублікі. Станоўчае вырашэнне яго — надзейны шлях уратавання роднай спадчыны».

Чытачы падтрымліваюць, прапануюць, палемізуюць, ставяць пытанні і адказваюць на іх. «Ці беларусы мы?» — пытаецца маладая паэтэса **Марыя Баравік,** якая працуе бібліятэкарам у г. п. Падсвілле Глыбоцкага раёна. І працягвае далей: «У нас ёсць усё, каб быць народам, быць нацыяй. І наша мова ў нас ёсць. Няма вось толькі высокай маральнасці ў тых, хто груба, зняважліва адмаўляе беларускую мову як самы галоўны элемент нацыянальнай культурнай спадчыны... Двухмоўе? А хто ж супраць яго? Дасканала ведай сваю нацыянальную мову. І хай будзе хоць дзесяцімоўе. Колькі ты ведаеш моў, столькі ты адукаваны чалавек. Гавары беларус з беларусам на беларускай мове, з рускім на рускай, з літоўцам на рускай і літоўскай і г. д. Абы ўсе разумелі адзін другога, адзін другога не крыўдзілі, не прыніжалі, а жылі ў дружбе. Але дзяржаўнай трэба лічыць беларускую, інакш якая ж мы тады рэспубліка?». «Што рабіць? Што трэба рабіць, каб зберагчы каштоўны скарб беларускага народа — яго мову? — задумваецца ў сваю чаргу **Кацярына Лапаціна,** дырэктар клуба Асіповіцкага кардонна - рубероіднага завода. — Зразумела толькі адно: разам з іншымі надзённымі пытаннямі, пытаннямі экалогіі, сацыяльнай справядлівасці і г. д., павінна вырашацца пытанне са становішчам нашай мовы. Лічу, што так званае «беларускае пытанне» павінна заняць сваё месца ў дзейнасці нашых народных дэпутатаў СССР, у дзейнасці Вярхоўнага Савета».

Палемізуючы з тымі, хто лічыць, што беларуская мова не гатова выступаць у якасці дзяржаўнай, выкладчык інстытута культуры **У. Глінскі** гаворыць: «Гатова. Наша мова выжыла ў цяжкіх умовах, якія складаліся на працягу стагоддзяў, і ўтварыла сваю вышэйшую форму — літаратурную, аб'ядноўвала духоўныя сілы нацыі, стала эфектыўным сродкам яе культуры. Тут не патрэбны «дапрацоўкі». Патэнцыяльная сіла беларускага слова і дасягнутыя ім заваёвы ў галіне прыгожага пісьменства гавораць самі за сябе». «Ленін і нацыянальныя мовы» — тэма разгорнутага даследавання, якое даслаў нам наш даўні чытач і аўтар **Валерый Васільевіч Голуб.** «У. І. Ленін у сваіх працах па нацыянальным пытанні, — піша В. Голуб, — не толькі патрабаваў ажыццяўлення палітыкі раўнапраўя нацый у шматнацыянальнай краіне, але і вылучаў асобна як асаблівую мэту раўнапраўе моў, дакладней: раўнапраўе ўжытку моў. Гэтым самым ён папярэджваў розныя гіпертрафіраваныя ўяўленні, імкнуўся пазбавіць сацыялізм ад такой хваробы, як скажэнні ў галіне ўжытку роднай мовы. Сёння мы маем гэтую праблему, і маем толькі таму, што поўнасцю «забылі» ленінскае вучэнне ў дачыненні да мовы, адышлі да іншай палітыкі, якая грунтуецца на так званым праве асобнага чалавека «выбару мовы». Гэтая моўная палітыка далёкая ад ленінскай».

Вялікая група (105 подпісаў) выкладчыкаў, студэнтаў і работнікаў Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава ставіць пытанне аб ужыванні беларускай мовы на чыгуначным транспарце, аб увядзенні двухмоўнай зрокавай і слыхавой інфармацыі на вакзалах, двухмоўнай абвесткі ў цягніках і электрычках, аб выданні даведнікаў руху цягнікоў на беларускай мове.

Самыя розныя аспекты набалелай праблемы закранаюць у сваіх пісьмах і допісах мінчане **Н. Дашкевіч, У. Голубеў, С. Дычок, Я. Печкава, А. Чыгрын.** Пішуць з Гомеля радыёфізік **А. Чалевіч,** супрацоўнік «Вылічальнага цэнтра» ГПІ **В. Кажухоў, А. Акуліч** (Добрушскі раён), з Гродзеншчыны — інжынер-канструктар ВА «Азот» **А. Чобат,** ваеннаслужачы **І. Супаненка,** служачы **М. Янкоўскі.** Падаюць голас у абарону роднай мовы рабочы з Магілёва **Г. Дуброўскі,** інжынер з Жодзіна **А. Доўгі,** бабруйчанін **Л. Забельскі.** Уносяць свой уклад у надзённую дыскусію беларусы, якія жывуць і працуюць за межамі рэспублікі (успомнім наш нядаўні агляд пісьмаў гэтай катэгорыі чытачоў). Пішуць інжынер **Ф. Нюнько** з Вільнюса, служачы **М. Ярчак** з Рыгі, інжынер **М. Роўба** з Таліна, выкладчык рускай і англійскай моў **Д. Ярашэўскі** (ГДР). А вось словы нашага сябра, які жыве ў г. Ірпень Кіеўскай вобласці: «Лічу, што на тэрыторыі Беларусі дзяржаўнай мовай павінна быць толькі беларуская, — піша ўкраінец **Лашчэнка Сяргей Іванавіч** (вывучыў беларускую мову і піша на ёй).— Рускай жа мове нішто, мне здаецца, не пагражае. А калі б і пагражала, дык беларусы, думаю, прынялі б усе захады для яе падтрымкі. А пакуль што адраджаць трэба менавіта беларускую мову... Справа гэтая, пры жаданні, рэальная. Калі ўжо я, украінец, здолеў навучыцца чытаць і пісаць па-беларуску, дык, лічу, жыхару Беларусі гэта зрабіць нашмат лягчэй (якой бы нацыянальнасці ён ні быў)».

Асобную групу пісьмаў складаюць — па эмацыянальнай танальнасці і аднадушнасці, — тыя, што з'явіліся дружна, адно за адным, у адказ на артыкул доктара гістарычных навук Л. М. Лыча (нумар за 28.04.1989 г.). «З вялікай цікавасцю прачытаў у вашай газеце артыкул доктара гістарычных навук Л. М. Лыча «Беларускай мове — статус дзяржаўнай». Шаноўны гісторык быццам падслухаў і мае думкі, бо я таксама лічыў і лічу, што выратаваць лёс роднай мовы можа толькі наданне ёй статуса дзяржаўнай. Іншага выхаду няма...» Такімі словамі пачынае свой водгук жыхар г. п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна, ветэран працы **Шырко Анатоль Іванавіч.** «Вельмі станоўчы, вельмі каштоўны артыкул напісаў Л. Лыч, — піша мінчанка, выкладчыца рускай мовы **М. Шчукіна.** — Беларускую мову трэба ратаваць, і ратаваць так, як гэта бачыцца гісторыку». «Артыкул Л. Лыча мяне ўсхваляваў, навёў на роздум, — дзеліцца **В. Брычыкаў** з Салігорска. — Так, прыйшоў час вяртання да вытокаў». «Тое, што напісаў Леанід Лыч, — не проста артыкул, а сапраўдная навуковая праца, цэлая праграма адраджэння нашай мовы, — піша рабочы МЭФЗ **А. Літвінаў.** — Малайчына аўтар! Ну то не быў бы доктар навук!». Высокую ацэнку даюць артыкулу настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 121 г. Мінска **А. Бурбоўская,** наш бабруйскі чытач, служачы **І. Машчыцкі,** віцебскі інжынер **В. Кухто,** мінчанін **Я. Казлоўскі.** «Вельмі карысна было пазнаёміцца з артыкулам Л. М. Лыча, — піша вядомы ўжо газеце аўтар, дызайнер Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання **А. Цэхановіч.** — Паболей бы такіх артыкулаў, з такім сапраўды навуковым даследаваннем праблемы, з такім глыбокім і аб'ектыўным асвятленнем усіх старонак нашай культуры і гісторыі». І яшчэ адзін, на заканчэнне, водгук. «Дзвюма рукамі галасую за ўсё тое, што напісана ў артыкуле Леаніда Лыча, — зазначае наш мінскі чытач і аўтар, кандыдат тэхнічных навук **А. Каўцэвіч.**— Сёння на двары перабудова, ідзе абнаўленне ўсіх сфер жыцця, амаль ва ўсіх рэспубліках адбываюцца станоўчыя перамены; пара і ў нас прыняць закон аб мове, аб яе функцыянаванні на дзяржаўным узроўні».

Ёсць у нашай пошце допіс, аўтар якога кандыдат філалагічных навук **А. Катэрлі** (Гомель) не пагаджаецца з галоўным палажэннем артыкула Л. Лыча. Зыходзячы з таго, што ў Беларусі склалася як быццам бы своеасаблівае койне (сумесь рускай і беларускай моў), ён лічыць «утопіяй заклік да надання беларускай мове статуса дзяржаўнай». «Моўная сітуацыя ў рэспубліцы, — піша А. Катэрлі, — не зменіцца ў выніку данага заканадаўчага акта, г. зн. беларуская мова ні сёння, ні заўтра не стане гутарковай мовай большасці насельніцтва рэспублікі (а толькі пры такой умове мову можна лічыць дзяржаўнай)». Маладоказнае сцверджанне.

Не-не ды і пачуеш (а то і прачытаеш) меркаванне, што далейшы лёс беларускай мовы трэба вырашыць шляхам рэферэндума. Што ж, давайце ў такім разе будзем і разглядаць як своеасаблівы міні-рэферэндум чарговы агляд лімаўскай пошты.

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі «ЛіМа».**

# ПАТРЭБНЫ ГРУНТОЎНЫЯ МЕРЫ

Каб стаць настаўнікам гісторыі ў сярэдняй школе, студэнт пяць гадоў вучыцца ва універсітэце. Такі самы тэрмін адводзіцца на падрыхтоўку спецыяліста іншага профілю, напрыклад, выкладчыка рускай мовы і літаратуры. Ці можна за гэтыя ж пяць гадоў падрыхтаваць прафесіянала не па адной, а адразу па дзвюх спецыяльнасцях? Логіка падказвае: нельга. Між тым, беларускія аддзяленні філалагічных факультэтаў ва ўсіх трох універсітэтах рэспублікі былі ператвораны ў беларуска-рускія. Рабілася гэта з разлікам рыхтаваць настаўнікаў шырокага профілю.

17 лютага 1987 г. загадам № 790 Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР зацвердзіла новы пералік спецыяльнасцей, па якіх павінны рыхтавацца кадры ў вышэйшых навучальных установах краіны. Замест ранейшай спецыялізацыі — «нацыянальная і руская мовы і літаратуры» стала — «мовы і літаратуры народаў СССР (з указаннем мовы)». З радасцю і надзеяй сустрэлі гэты загад многія студэнты і выкладчыкі. Але хоць і прайшло ўжо з таго часу два гады, справа не зрушылася з месца. Прычына? Ніяк не могуць у нашым рэспубліканскім міністэрстве скласці новы вучэбны план. А то, бывае, даводзіцца нам чуць і такія дзіўныя меркаванні — ці варта наогул адкрываць чыста беларускае аддзяленне? Маўляў, на філфаку пераважаюць дзяўчаты, выйдзе каторая замуж за афіцэра, паедзе з ім кудынебудзь у Тамбоўскую вобласць і не зможа там уладкавацца, маючы такую вузкую прафесію... Быццам так ужо ўсе і пойдуць замуж за афіцэраў. А пакуль што даводзіцца сустракацца з абыякавым чыноўніцкім стаўленнем і да лёсу беларускай мовы і культуры, і да якасці спецыялістаў, якія ў нас рыхтуюцца.

Не верыцца, што названы вышэй загад будзе выконвацца з наступнага навучальнага года, бо, напрыклад, у Гродзенскім універсітэце ўжо набралі будучых студэнтаў на падрыхтоўчае аддзяленне па ранейшай двухмоўнай спецыяльнасці. Тое самае фактычна адбываецца і ў БДУ імя У. І. Леніна.

М. С. Гарбачову належаць словы: «Сілы тармажэння існуюць і ў духоўнай сферы. Можа, тут нават мацнейшыя, чым у любой іншай». На жаль, гэта праўда.

У «Асноўных мерапрыемствах па далейшаму развіццю народнай асветы ў Беларускай ССР» гаворыцца пра неабходнасць «павялічыць колькасць гадзін па вывучэнні беларускай мовы на ўсіх факультэтах педінстытутаў і педагагічных аддзяленнях універсітэтаў». Не ведаю, як у іншых вышэйшых навучальных установах, а ў Гродзенскім універсітэце планавалася летась правесці заняткі па беларускай мове і літаратуры (40 гадзін) толькі на адным (гістарычным) факультэце. Паколькі гэты курс быў факультатыўны, на першыя заняткі прыйшло ўсяго 6 студэнтаў, а пасля і тыя, даведаўшыся, што ні залікаў, ні экзаменаў па гэтых прадметах не будзе, перасталі наведваць лекцыі.

У памянёных «Асноўных мерапрыемствах...» сказана: «Дабівацца, каб кожны жыхар рэспублікі добра ведаў беларускую і рускую мовы, валодаў імі». Адным з несумненных сродкаў авалодання беларускай мовай з'яўляецца рэгулярнае чытанне беларускамоўных газет. Аднак наша абласная газета, многія раённыя, шматтыражка «Гродненский университет» па-ранейшаму выходзяць на рускай мове. Нядаўна «Гродненская правда» адказала чытачам, што «вопрос об издании газеты на двух языках изучается, но в 1989 году газета будет издаваться только на русском языке».

Каб беларуская мова адчувала сябе не падчаркай на роднай зямлі, не госцем, а гаспадаром у сваёй хаце, патрэбны грунтоўныя меры. Неабходна, як гаварыў на X сесіі Вярхоўнага Савета БССР дэпутат Г. Бураўкін, «надаць беларускай мове нароўні з рускай статус дзяржаўнай, што забяспечыла б не дэмагагічнае, а практычнае двухмоўе».

**І. ЛЕПЕШАЎ,**
**прафесар Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы.**

## Віншуем лаўрэатаў

**На чарговым пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР прысуджаны літаратурныя прэміі. Прэміяй імя Аркадзя Куляшова адзначана кніга вершаў і паэм Казіміра Камейшы «Пярэймы дня». Рыгору Шкрабе за кнігу літаратурна-крытычных артыкулаў «Энергія слова» нададзена годнасць лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа.**

**Паэзія Казіміра Камейшы заўсёды прывáблівала еднасцю лірычнага героя з роднымі аўтару мясцінамі. Гэтая повязь з дарагім і блізкім паэту з маленства, што так хораша адчувалася ў зборніках «Мембрана», «Тут мае вёсны прычалены», «Сябрына» і іншых, у новай кнізе «Пярэймы дня» раскрылася сваімі новымі гранямі. «У прастор, што хваляй жытоў разгайданы, як на крылах лячу», — прызнаецца аўтар і адсюль, дзе памятна ледзь не кожная сцяжына, спрабуе зразумець сам час, імкнецца глянуць глыбей у душу чалавека, які на віхурных скрыжаваннях эпохі захаваў здольнасць любіць, марыць, змагацца за ўсё лепшае і святое.**

**Дзень сённяшні і ўчарашні ў зборніку цесна ўзаемазвязаны, бо К. Камейша глядзіць на з'явы жыцця ў іх дыялектычным адзінстве. Вяртанне да вытокаў у дадзеным выпадку — тое маральнае, духоўнае ачышчэнне, якое дазваляе адкрытымі вачыма глядзець на свет і людзей.**

**Пачатковыя радкі паэмы «Дом» у нейкай ступені набываюць абагульняючы сэнс:**

**Мурожна, і мядова, і трывожна**
**Увечары ля Нёмана-ракі.**
**Ну вось і грузавік — мой спадарожнік.**
**Давай, браток, кіруй у Навікі.**

**Родная паэтава вёска Малыя Навікі, што на Стаўбцоўшчыне, гэта сапраўды Дом, але не прыстанішча, дзе ён жыў, а як часцінка самой Радзімы. Сюды аўтар зазірае не выпадковым госцем, а чалавекам, які, шмат пражыўшы ў горадзе, не растраціў цікавасці да турботнай працы хлебароба. Старонкі лірычнага дзённіка «Ад Кромані да Свіцязі» — своеасаблівы працяг гэтай паэмы. Тут таксама размова аб сённяшняй вёсцы і яе людзях, але вядзецца яна на дакументальнай аснове, паэт называе тых працаўнікоў, якія прывабілі яго сваёй самаадданай працай.**

**Як і ў ранейшых кнігах, К. Камейша не абмінае тэмы Вялікай Айчыннай вайны.**

**Па-свойму асэнсоўвае тэму кахання, дружбы, з замілаваннем піша пра хараство Нёманскага краю.**

**Рыгор Шкраба, як вядома, належыць да тых беларускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў, хто пастаянна трымае ў полі свайго зроку пытанні моўнага майстэрства пісьменнікаў. Новая кніга даследчыка «Энергія слова» ў гэтым сэнсе не выключэнне. Артыкулы, якія ўвайшлі ў яе, закранаюць такія пытанні, як мова і стыль, майстэрства пісьменніка і выкарыстанне фальклору, выбар героя і індывідуалізацыя яго мовы...**

**Глыбінёй аналізу, шырынёй ахопу праблем вылучаюцца публікацыі манаграфічнага плана — «На кожны дзень», «Жыццё слова», «Крыніца вобразаў», «Дзе што сказаць...». У іх крытык звяртаецца да твораў многіх аўтараў, абагульняючы назіранні, пачэрпнутыя пры знаёмстве з кнігамі, якія яго найбольш усхвалялі ці, наадварот, выклікалі крытычныя заўвагі.**

**Уяўленне аб пазіцыі даследчыка пашыраюць матэрыялы, у якіх, як правіла, гаворка засяроджваецца на творчасці пэўнага пісьменніка ці ўвогуле на адной кнізе. Скажам, у артыкуле «На малым полі» даследчык падрабязна разглядае творчасць А. Чарнышэвіча-навеліста, раскрываючы свет «малой прозы» гэтага пісьменніка, эпіка па складу таленту».**

**Па высокаму рахунку вядзе Р. Шкраба размову аб кнізе прозы Х. Лялько «Дарога пад гару», невыпадкова вылучаючы яе творчасць з шэрагу іншых дэбютантаў, перш за ўсё дзякуючы жывой, сакавітай мове.**

**І, вядома, ж, востраправлемныя, магчыма, у нечым і палемічныя артыкулы «Пра спецыфіку літаратуры», «Асцярожна: школа!», у якіх аўтар выяўляе сваю прынцыповую не толькі пісьменніцкую, але і грамадзянскую пазіцыю, калі турбуецца за лёс выкладання беларускай літаратуры ў школе.**

**Гаворка гэтая пачынае набываць новыя грані, калі крытык пашырае яе турботай пра лёс нацыянальнай культуры, пра яе адраджэнне.**

*Перабудова і міжнацыянальныя адносіны*

# ЗБІРАЕ НАС «СВІТАНАК»

ГАДЫ рэпрэсій і застою прывялі, як вядома, да скажэння ў нацыянальнай сферы, у тым ліку і ў галіне ўзаемаадносін паміж рознымі нацыямі ў саюзных рэспубліках. Сёння становішча мяняецца да лепшага. Працэсы, якія адбываюцца, напрыклад, у Латвіі, не могуць не закранаць, не падымаць нацыянальную самасвядомасць у нацыянальных меншасцяў, што жывуць побач з латышамі, у тым ліку і ў беларусаў. Ужо сёння ў Латвіі створана 15 нацыянальных культурных таварыстваў — рускае, украінскае, польскае, літоўскае, эстонскае, малдаўскае, нямецкае, цыганскае, армянскае і інш., — якія аб'ядналіся ў Асацыяцыю нацыянальных культурных таварыстваў у Латвіі. У гэты лік уваходзіць і Беларускае культурнае таварыства «Світанак». Стварэнню гэтых таварыстваў спрыялі не толькі галоснасць і дэмакратызацыя, але і падтрымка з боку кіраўніцтва рэспублікі, яе перабудовачных сіл.

У матэрыялах XIX партканферэнцыі адзначана: «...каб нацыянальнасці, якія пражываюць за межамі сваіх дзяржаўна-тэрытарыяльных утварэнняў або якія не маюць іх, атрымалі больш магчымасцей для рэалізацыі нацыянальных запатрабаванняў, асабліва ў сферы адукацыі, зносін, народнай творчасці, а таксама для ўтварэння ачагоў нацыянальнай культуры». Так, менавіта праз культуру трэба збліжаць нацыі, а не праз растварэнне нацыянальных моў і культур. Праз іх росквіт. Бо толькі багаццем сваіх нацыянальных колераў яны змогуць стварыць багаты букет шматнацыянальнай культуры.

Першы ўстаноўчы сход Беларускага культурнага таварыства «Світанак», які адбыўся ў лістападзе 1988 года ў Зялёнай зале Малой гільдыі ў Старой Рызе, зацікавіў многіх і прайшоў даволі бурна, у дыскусіях і спрэчках. Ініцыятыўная група, якая арганізоўвала таварыства, ведала, што самым балючым пытаннем для беларусаў сёння з'яўляецца стан роднай мовы. Таму было вырашана паставіць галоўнай мэтай дзейнасці нашага таварыства на сённяшнім этапе адраджэнне роднай мовы, а разам з ёю і нацыянальнай культуры сярод беларусаў у Латвіі, якіх тут сёння налічваецца звыш 111 тысяч. Але каб пашырыць родную мову сярод іх, члены нашага таварыства павінны самі ёю валодаць і карыстацца на ўсіх сваіх вечарах і сходах, а хто не валодае — у вызначаны тэрмін (год, два ці тры) праз вячэрнія класы беларускай мовы павінен яе вывучыць. Пра гэта нават гаворыць адзін з пунктаў у статуце нашага таварыства. Дарэчы, менавіта па гэтым пункце наша таварыства разыходзіцца з беларускай зямляцкай секцыяй Балта-Славянскага таварыства, якое мае назву Беларускі культурны цэнтр «Раніца», пра якую згадвалася ў «ЛіМе» раней.

Сёння мы не можам пагадзіцца з ранейшымі падыходамі да беларускай культуры, калі людзі прыкрываліся беларускай шыльдай, атрыбутыкай ці арнаментам, а самі не маглі сказаць слова на роднай мове. Раз мы таварыства культуры, то ці можам мы прапагандаваць нацыянальную культуру сярод беларусаў на іншай мове?

Хоць старажытная Рыга і далёка ад Беларусі, аднак беларуская мова тут ужо гучала з XIII ст. з часу падпісання (1229 г.) паміж Рыгай і Полацкім княствам дагавора аб вольным гандлі. Яе можна было пачуць ад беларускіх купцоў, стругаўшчыкоў і плытагонаў ля прычалаў Рыгі, у гандлёвых канторах, якія тут мелі беларускія купцы. Дарэчы, не выключана, што адна з іх належала Луку Скарыне — бацьку нашага славутага першадрукара і асветніка. Беларускую мову можна было пачуць і ля царквы св. Міколы, што знаходзілася ў XVI ст. у адным з кварталаў Рыгі, а ў XVIII — XIX стст. ля Троіцкай царквы, якая была прыгнана на плытах беларускімі плытагонамі і ўстаноўлена ў Рызе на востраве Кліверсала і ў народзе называлася беларускай. Аднак часцей і больш упэўнена загучала гэта мова паміж асеўшымі ў Латвіі беларусамі, калі тут было заснавана ў 1921 годзе Беларускае культурна-асветніцкае таварыства «Бацькаўшчына». Тады ж, дзякуючы дапамозе і ўвазе да беларусаў вядомага латышскага паэта, сапраўднага інтэрнацыяналіста Яніса Райніса, у 20 — 30-я гады ў Рызе, Даўгаўпілсе і Лудзы існавалі беларускія гімназіі, а ў вёсках Латгаліі дзесяткі пачатковых беларускіх школ. У Рызе ў той час меліся Беларускія настаўніцкія курсы, існаваў народны тэатр, а Беларускім выдавецтвам у Латвіі выдаваліся на роднай мове падручнікі і мастацкая літаратура, календары, паштоўкі, чатыры газеты і два часопісы.

У 1940 г. беларускія школы ў Латвіі былі зачынены, перастала існаваць культурна-асветніцкае таварыства «Бацькаўшчына».

Сёння колькасць беларусаў у Латвіі ў чатыры разы большая ў параўнанні з даваенным часам. І хоць становішча ў іх для таго, каб мець пастаянную сувязь з роднай Беларуссю, з яе культурай намнога лепшае, чым у часы буржуазнай Латвіі, аднак нацыянальная самасвядомасць намнога ніжэйшая. Аб гэтым гаворыць і тое, што родная мова сёння ў беларускіх сем'ях, што жывуць у Латвіі, не гучыць, беларускія кніжкі ў хатніх бібліятэках не ў кожнага сустрэнеш, не кажучы ўжо пра беларускі друк. Вось і жывуць яны адарваныя ад сваіх каранёў, ад нацыянальнай культуры. Таму і не дзіва, што некаторыя з іх у анкеце пад час перапісу роднай мовай назвалі рускую. І толькі запіс у пашпарце гаворыць аб іх прыналежнасці да беларусаў.

Ну ды хоць многія знаходзяцца яшчэ ў палоне мінулага, можна гаварыць і аб прыкметах адраджэння. Аб гэтым гавораць і наведванні нашых вечароў, і тое, як на вечарах у кніжным кіёску разбіраюцца беларускія слоўнікі, мастацкая літаратура на роднай мове. Аб гэтым гавораць і запісы ў вячэрнія класы беларускай мовы для дзяцей і дарослых, у дзіцячую студыю выяўленчага мастацтва «Вясёлка», у якой выкладанне будзе весціся на роднай мове, у беларускі тэатр мініяцюр (студыя і тэатр адкрыюцца з новага навучальнага года). Людзей гэта ўсё цікавіць, ім толькі трэба падказаць, дапамагчы. А гэта, мы лічым, і ёсць адзін з галоўных прынцыпаў нашага таварыства. Вось хоць бы такі прыклад. Больш за дзвесце чалавек сабралася на адну з нашых вечарын. А перад гэтым я зайшоў на пошту і запоўніў 30 бланкаў падпіскі на «Літаратуру і мастацтва». На іх заставалася толькі запісаць адрас абанента, аплаціць на пошце квітанцыю і чакаць праз паўтара месяца сам штотыднёвік. На той вечарыне я прапанаваў тым, хто не мае падпіскі на «Літаратуру і мастацтва», падысці да мяне і атрымаць запоўненыя бланкі. Цяжка было паверыць, як хутка паразбіралі гэтыя бланкі, і мне толькі засталося пашкадаваць, чаму я не ўзяў з сабой сотню экземпляраў. Але тыя, каму іх не хапіла, не былі расчараваны, бо было абвешчана, што на наступны дзень можна зайсці на пошту і падпісацца на любую беларускую газету, не чакаючы падпіскі да наступнага года.

Так, людзям сёння патрэбна дапамога, патрэбна неабходная інфармацыя. Бо ў іх пачала расці нацыянальная самасвядомасць, з'явілася цікавасць да малой радзімы, да сваіх каранёў, да роднай мовы, гісторыі і культуры. І з'яўленне ў Рызе Беларускага культурнага таварыства «Світанак» — зусім не выпадковасць. Наша таварыства, мы лічым, — гэта аднаўленне дзейнасці былога культурна-асветніцкага таварыства «Бацькаўшчына», пасля больш як саракагадовага перапынку.

Мы лічым, што праз дотык да нацыянальнай культуры, праз духоўнае ўзбагачэнне кожнага чалавек стане лепш разумець каштоўнасць гэтай культуры ў развіцці грамадства, стане выразней адрозніваць нацыянальнае ад нацыяналістычнага.

Хоць беларусы даўно жывуць у Латвіі, але пра іх тут мала што ведаюць. Таму наша таварыства сваёй дзейнасцю хоча прапагандаваць нацыянальную культуру і гісторыю сярод латышоў і іншых нацыянальнасцяў, што жывуць у рэспубліцы. Хоча прапагандаваць беларуска-латышскія культурныя сувязі і арганізаваць музей гэтых сувязей.

«Світанак» сваю дзейнасць пачаў не так даўно, аднак пра яго працу ўжо можна трохі сказаць. Адзін з першых вечароў таварыства быў прысвечаны сустрэчы з паэтам і публіцыстам Сяргеем Панізнікам, які даўно даследуе беларуска-латышскія сувязі, перакладае латышскіх паэтаў і шмат зрабіў па ўмацаванні дружбы паміж двума народамі-суседзямі. На гэтым вечары былі цёпла сустрэты выступленні даследчыкаў латышска-беларускіх сувязяў, перакладчыкаў з беларускай на латышскую мову Мірдзы Абалы і Яніса Османіса. З цікавасцю прысутныя слухалі ўспаміны былой вучаніцы беларускай школы ў Латвіі Ірыны Сяргееўны Сахаравай, дачкі вядомага беларускага этнографа, фальклараста і педагога С. П. Сахарава. Поўную залу збіралі два вечары таварыства з цыклам «Святыні майго народа». Першы вечар быў прысвечаны гісторыі Беларусі, на якім была прачытана лекцыя аб старажытнай беларускай сімволіцы, пастаўлена п'еса — мініяцюра на гістарычную тэму, якую напісаў і выдатна выканаў Сяргей Кузняцоў. Членамі таварыства чыталіся вершы на гістарычную тэматыку, напісаныя ў розныя часы і рознымі аўтарамі. Другі вечар быў прысвечаны роднай мове. Даволі нечаканым і цікавым было выступленне на вечары вядомага беларускага гісторыка з Ленінграда Валянціна Грыцкевіча. Вельмі парадавалі нас народнымі песнямі мінскі фальклорны ансамбль «Дзянніца», а выкананнем літоўскага, латышскага і беларускага танцаў — мясцовы ансамбль «Ліго».

Сёлетняй вясной у Латвіі адбылося дзіцячае свята мовы, на якім разам з латышскай гучалі мовы народаў Латвіі. У гэтым свяце прымалі ўдзел і дзеці бацькоў з нашага «Світанка». Заўсёды рады мы, калі ў Рыгу прыязджаюць нашы землякі з роднай Беларусі. Пры сустрэчы з імі мы як бы пераносімся на бацькаўшчыну, а тое мастацтва, якое яны прывозяць, нам дае магчымасць дакрануцца да сваёй нацыянальнай культуры, бліжэй яе пазнаць. Гэта мы адчувалі, калі віншавалі групу беларускіх мастакоў «Няміга» на адкрыцці ў Рызе выстаўкі іх твораў, і калі глядзелі чароўныя «Лявоніху», «Мікіту», «Крутуху» і іншыя танцы ў Рыжскай філармоніі ў выкананні Дзяржаўнага ансамбля танца БССР. Таму хацелася б, каб на гэта больш звярнулі ўвагу і Міністэрства культуры БССР, і Беларускі фонд культуры.

Працы ў нас наперадзе яшчэ шмат і шмат спатрэбіцца нам дапамогі. Павінен сказаць, што мясцовыя ўлады стараюцца спрыяць нам. Дом культуры Рэспубліканскага савета прафсаюзаў у Малой гільдыі даў нам прытулак, выдзяляе кожны месяц вялікую залу, аздобленую старымі вітражамі. А ў гэты час Савет Міністраў Латвійскай ССР шукае для нашага таварыства асобнае памяшканне. Міністэрства асветы выдзеліла адну з рыжскіх школ для нядзельных і вячэрніх класаў беларускай мовы, і настаўнікам гэтых класаў за ўрокі будзе аплачваць так, як і за выкладанне ў беларускай дзіцячай мастацкай студыі. Рыжскае выдавецтва рыхтуе зборнік «Гісторыя школ народаў Латвіі», дзе будзе расказана і пра беларускія школы. Мясцовы друк заўсёды прадастаўляе свае старонкі для прапаганды і інфармацыі дзейнасці нашаму таварыству (як і іншым нацыянальным культурным аб'яднанням). Прадастаўленне магчымасцей усім народам Латвіі рэалізаваць свае нацыянальна-культурныя, духоўныя запытанні спрыяе дружбе паміж народамі, сапраўднаму інтэрнацыяналізму.

**Вячка ЦЕЛЕШ,**
**член рады БКТ «Світанак».**
г. Рыга.

# Анкета «ЛіМа»: слова празаікам

**Не ўсе літаратары дзеляцца творчымі планамі — рэч вядомая. Аднак мы рызыкнулі, тым не менш, звярнуцца да некаторых з пытаннямі. Дык вось: якія задумы выспяваюць? Ці просяцца на паперу тэмы сённяшняга грамадскага абнаўлення? Як паўплывала на Вашу творчасць адмена «забаронных» тэм? Наколькі дае пра сябе знаць унутраны цэнзар, які, бадай, у кожнага з нас пасяліўся ў душы? Ці хацелі б Вы змяніць творчы почырк і калі так, то з чым гэта звязана?**

**З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся найперш да празаікаў. Адказы тых, хто адгукнуўся, і прапануем увазе чытачоў.**



**Алесь АСІПЕНКА**

## МІНУЛАЕ — СТРОГІ НАСТАЎНІК

Зазвычай было так: пасля пытанняў на агульналітаратурныя і канкрэтна творчыя тэмы вядучы гутаркі цікавіўся, якія задумы выспяваюць у пісьменніцкай галаве. У вядучага са схільнасцю да патэтыкі пытанне гучала ўзнёсла: «Якім творам у бліжэйшы час шаноўны пісьменнік парадуе чытача?»

Хто не валодаў гумарам, адказваў з наіўнай шчырасцю, чым ён будзе «радаваць» чытача, які, можа, і не хацеў радавацца. Хто валодаў, усяляк ухіляўся ад адказу. Таму і замацавалася за літаратурным людам гумарыстычнага складу меркаванне, што ён не любіць дзяліцца творчымі планамі з чытачом і прэсай.

А тут, у анкеце «ЛіМа», традыцыйна апошняе пытанне пастаўлена назнарок першым: «Якія задумы выспяваюць?» І кропка! І паспрабуй абыдзі ў лоб пастаўленае пытанне. Не маеш задум, тады і ўсе наступныя пытанні анкеты губляюць свой сэнс. Сапраўды, калі ў галаве нічога не выспявае, дык і ўнутранаму цэнзару няма чаго рабіць, і мяняць творчы почырк таксама.

Вось дык задача! Захаваць гумар ці ўсё ж адважыцца на споведзь пра задумы, якім, напэўна, не суджана ажыццявіцца? Гады, гады!.. А каб нешта саспела, яго трэба пасеяць. Ды і не паспешліва, бо іначай ураджай будзе кепскі, што часцей, на жаль, і бывае. Зрэшты, усё гэта адгаворкі, усё даніна нашай беларускай асцярожнасці ды сціпласці: крый божа не высунуцца, не звярнуць на сябе ўвагу...

Вось так і здарылася, што адказваць на анкету я пачынаю з другога пытання — наконт тэм грамадскага абнаўлення.

Па майму глыбокаму перакананню грамадскае абнаўленне — працэс і бесперапынны, і спрадвечны. Не стану зазіраць у глыбіню стагоддзяў, нагадаю хоць бы гады індустрыялізацыі і калектывізацыі, пра якія на прыканцы дваццатых і пачатку трыццатых пісалася і гаварылася, як пра найвялікшае абнаўленне горада і вёскі. Пасля новай эканамічнай палітыкі гэта сапраўды выглядала рэвалюцыйным пераваротам, як да таго НЭП была абнаўленнем пасля ваеннага камунізму. Тады, у гады індустрыялізацыі і калектывізацыі, таксама — і вельмі абвострана — ставілася пытанне: што ты зрабіў, каб адлюстраваць у літаратурных творах рэвалюцыйнае абнаўленне на вёсцы і ў горадзе? Тэмы тады не толькі прасіліся, а ўладна клаліся на паперу пад гарачым і вострым пяром пісьменнікаў.

Напісана было шмат. Гісторыя літаратуры захавала для нас творы, напісаныя па свежых слядах рэвалюцыйнага абнаўлення. Тэмы, што праўда, запомніліся, а мастацкі ўзровень твораў выцвіў, калі было чаму выцвітаць. Ды ў чым тут віна пісьменнікаў? Быў жа энтузіязм, хада ўпоравень з часам, вера ў будучыню і неабходнасць таго, што тады рабілася. Была ўпэўненасць. Пазбягаючы памылак папярэднікаў, мы робім новыя, і хто запэўніць, што меншыя. А калі большыя?

Да спадчыны трэба ставіцца больш ашчадна і спаважна. Пад сцягам аб'ектыўнасці і прынцыповасці мы не заўважылі, як выплеснулі з вадою і бездапаможнае дзіця. Наша з вамі дзіця. Так, нават лепшыя творы пра калектывізацыю грашаць просталінейнасцю і павярхоўнасцю мастацкага даследавання. Але ж і тое трэба ўлічыць, што пісьменнік тады жыў пад моцным атмасферным ціскам. Яго трэба зразумець, пачуць ягоны боль і ягоную бездапаможнасць, а не хвастаць кожны раз новай пугай. Уважліва і зацікаўлена чытаючы творы той пары, можна зрабіць нямала адкрыццяў. Прыклад таму па-новаму прачытаная Зояй Мельнікавай п'еса Кандрата Крапівы «Канец дружбы» («ЛіМ», № 17).

Не адзін раз прынародна высцебаны, пісьменнік цяпер пайшоў абачлівы. Ён не кідаецца стрымгалоў у бурныя хвалі новых рэвалюцый — навуковых, тэхнічных, сацыяльных, культурных і яшчэ бог ведае якіх. Над ім дождж не крапае. Да навальніц ён прывык — пагрыміць, пагрыміць ды і перастане. А калі што якое, дык можна сігануць у далёкую ці блізкую гісторыю — надзённа, прэстыжна, бяспечна, асабліва, калі едзеш укатанай дарогай.

Я належу да тых, хто не цураецца так званай сучаснай тэмы, хто адданы ёй назаўжды. Я не магу абыходзіць увагай і тэмы сённяшняга грамадскага абнаўлення, тэму чалавека, закручанага ў віры непаслядоўных, супярэчлівых падзей і дзеянняў. Я хачу зразумець, а ці ўсе падзеі і дзеянні датычаць грамадскага абнаўлення? Дзе месца чалавека ў гэтым складаным працэсе? Мне цікава прасочваць лёсы людзей на скрыжаваннях радыкальных рэформаў і глабальных перамен. Я хачу зразумець, як адбілася мінулае на старэйшым пакаленні людзей, якія повязі звязваюць яго з мінулым?

Усё надзвычай складана і вельмі адказна перад судом гісторыі. Мы маглі ў гэтым пераканацца. Мінулае — строгі настаўнік. На жаль, мы благія



**Георгій МАРЧУК**

## ПАЧЫНАЦЬ З АБНАЎЛЕННЯ ДУШЫ

Па-першае, я трошкі разгублены, бо, як часта ў нас бывае (і з анкетай у тым ліку), усё прыходзіць са спазненнем. Менавіта за тыдзень да прыходу паштальёнкі я здаў у выдавецтва свой новы, на гэты раз сатырычны раман «Сава Дым і яго палюбоўніцы». На працягу апошніх пятнаццаці гадоў я строга прытрымліваюся асноўнай ідэі свайго жыцця — стварэння шэрагу раманаў пра лёс беларуса ў дваццатым стагоддзі. Два апошнія па часе мае раманы — псіхалагічна-бытавы «Вочы і сон» і трагікамічны «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (упершыню я апісваю сталічнае жыццё) прысвечаны, як казаў бессмяротны Дастаеўскі, «бесаўшчыне». Магу толькі паўтарыць неаднойчы выказанае вялікімі пісьменнікамі розных народаў, што падзенне чалавека, грэх, паступовае спаўзанне ў яму бездухоўнасці — пісаць лягчэй. Можа, яшчэ і таму, што зло агрэсіўнае, а дабро ўсё ж узвышанае, непрыкметнае, далікатнае. Зло — супярэчлівае, з падвойным дном, хітрае, каварнае, яно мае шмат адценняў. Не хачу сказаць, што ў маіх апошніх раманах такое ўжо суцэльнае панаванне д'яблаў. Нехта мусіць і абавязаны паўстаць (і паўстае — таму прыкладаў шмат), каб абараніць праўду, сумленне, доўг і любоў.

Ці просяцца на паперу тэмы грамадскага абнаўлення?

Лічу, што гэта асноўны стрыжань кожнага літаратурнага твора. Як кажуць, на ўсе часы. Праўда, я асабіста не веру ў гармонію чалавечага існавання на зямлі. Пісьменнікі (за рэдкім выключэннем), якія ішлі перад намі, у сілу мноства абставін ўзводзілі гэтую самую тэму грамадскага абнаўлення ў ідэю-фікс. Абавязкова пакажы ідэальнага станоўчага героя, абавязкова — рашучую і беспамылковую ролю партыі і крый божа не чапай людзей іншай нацыянальнасці. І толькі тыя, хто пачынаў гэтае самае абнаўленне з абнаўлення і ачышчэння душы чалавека, пісаў (нягледзячы на ўстаноўкі, пастулаты, законы) праўду аб лёсе свайго народа, гісторыі, толькі тыя маглі разлічваць на перамогу і на доўгае жыццё сваіх твораў. Пры ўсім пры тым лічу, што мне ў некаторым сэнсе пашчасціла, бо я пачаў з камедый, з сатыры. Адмяняе «забаронную тэму» (адказваю на пытанні далей) не ўлада, не кіруючая партыя, а сам пісьменнік. У гэтым асаблівасць, прывабнасць і самабытнасць яго таленту, яго асобы, што яму аднаму, як богу, падуладна на паперы ўсё. Як ён гэта зробіць, з якой мерай мастацкасці — іншая справа.

Тут, бадай, просіцца і адказ яшчэ на адно пытанне «Ці хацелі б Вы змяніць творчы почырк?». Мой метад трывала звязаны з рэалізмам, які, на маю думку, такі ж бясконцы, як само жыццё. Прыгледзьцеся, як адзін дзень не падобны на іншы, як розніцца каханне ў дваццаць і ў трыццаць гадоў, як цяжка ўсвядоміць і асэнсаваць хаця б адну мінуту свайго жыцця, жыцця вёскі, горада. Ці ж дадзена гэтую бясконцасць, супярэчлівасць кантрастаў, адкрыццяў, пачуццяў штучна загнаць у рамкі сацрэалізму, крытычнага рэалізму, авангардызму, поп-арт-ізму і г. д.? Творчы почырк пісьменніка я разглядаю як стыль, манеру пісьма, а ўжо кожная новая тэма дыктуе свае мадуляцыі ды варыяцыі, як дыктуе вясна вішні выпусціць цвет, як дыктуе восень скінуць лісце.

### Культура мовы

## УСЁ ЛЯТУЦЬ І ЛЯТУЦЬ ТЫЯ КОНІ...

**Адказ чытачу**

Я атрымала ліст ад чытача пасля публікацыі трыпціха ў часопісе «Беларусь» (1989, № 2). Словы, якіх не знойдзеш у акадэмічных слоўніках, І. Якуш акуратна выпісаў у два слупкі, а далей у выглядзе дыялога з нябачнымі шматлікімі чытачамі, як апошняя інстанцыя выносіць мне смяротны прысуд: «Зноў нескладуха, ні то проза, ні то вершы»... І спісвае мяне ў ранжыр зусім бяздарных паэтаў.

А тут якраз мне падказалі, што такі ліст за тым жа подпісам апублікаваў часопіс «Маладосць». Вось я і адказваю таварышу Якушу на ўсе ягоныя лісты.

Доўгі час мне хапала мовы роднай вёскі. Але незаўважна захапілася найцікавейшымі кнігамі — слоўнікамі. Іх на маім стале ўсё большае ды большае, і кожны нечым адметны ды дарагі. У спадчыну ад духоўнай маці дасталіся мне два нумары часопіса «Крывіч» за 1924 год, у якім Вацлаў Ластоўскі дае шмат слоўнікавых артыкулаў: «Напаўпрыслаўкі, напаўпрыказкі М. Нікіфароўскага», «Номэнклятура беларускіх птушак», дзе пададзены лацінскі, рускі ды беларускі назовы.

Змешчана ў «Крывічы» публікацыя слоў-паўтораў, ці «таўталёгія». Выпісаныя эпітэты з кнігі Доўнар-Запольскага «Песні Пінчукоў» (Кіеў, 1895 г.). У другім нумары «Крывіча» перадрукаваны «Першы крыўскі слоўнік» 1596 года Лаўрына Кукеля (Зызанія), Вільня. І шмат цікавых момантаў там знайшла я. Да прыкладу, словы «морак», «розрух» маім апанентам напэўна былі б вынесены ў той забаронены слупок, а слова «работа» па-беларуску тлумачыцца як «няволя». І далей у «Крывічы» публікуецца збор М. Чарнецкага «Хата, хатні гаспадарскі рыштунак». Ледзь прыпамінаем такія найменні з вясковага побыту, якія, да прыкладу, тычацца сялянскай печы: **засланка, ток** ці **под, скляпенне** ці **паднябенне, пелюсць, прыпечак, чарон, чалеснік, папяльнік** ці **ямка; стаўбец, тур, кон** ці **князь** — стоўб каля печы; **мурок, пячурка, люшка, падпрыпечак, падпечак**... Але ўсе гэтыя назовы звычныя ў вуснах мамы... Слоўнік В. Ластоўскага я зрэдчасу пазычаю ў сяброўкі — ёй падаравалі адбітак на капіравальнай машыне.

Ёсць у маёй бібліятэцы «Фізыка» Н. В. Кашына, пераклад А. Круталевіча, выданне 1924 года. У канцы падручніка слоўнік фізічных тэрмінаў, дзе няма слова **рэха**, але **водгулле**, няма **газапровад**, а ёсць **газавод**, няма **запаяць**, а ёсць **злітаваць, залітаваць**. Замест **магніту** ўжывалі тэрмін **магнэс**, замест **ракавіны** існавала **чарапашына**... Кожны тэрмін бралі з мовы ваколля, а не калькавалі з рускай.

Вельмі шаную «Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны» Івана Кандратавіча Бялькевіча, які збіраўся ў 25—30 гг., а выдаваўся ў 1970 годзе жонкай Нінай Мікалаеўнай Улашчык, дачкой Людмілай і сынам Усяславам пасля смерці мовазнаўцы. Міхась Ткачоў распавёў, што на рэцэнзію «Краёвага слоўніка...», змешчаную ім у Мсціслаўскай раённай газеце, адклікнуліся карэспандэнты Івана Кандратавіча, ягоныя сааўтары. У слоўніку ёсць мова і Кармянскага раёна, дзе жыве мой прыдзірлівы чытач. І я знаходжу тут забытыя мной словы роднай вёскі, да прыкладу, «чата». Толькі ў нас так называлі нечаканую хмару, што раптоўна засціла нябёсы, а на

вучні, якія прывыклі слухаць толькі сябе.

Я доўга не мог падступіцца да твора, герой якога даўно жыў у маёй свядомасці. Штосьці вельмі трагічнае павінна было запыніць яго на коўзкім шляху зайздроснай кар'еры. Здаецца, я знайшоў тое, што хацелася. Але я паасцерагуся сказаць, што гэта будзе раман пра грамадскае абнаўленне. Можа, наадварот...

Вось тут і схлусіць бы: адмена «забаронных» тэм дапамагае мне пісаць праўду і толькі праўду і нічога, апрача праўды. Але ўзнікла і законнае пытанне: пра якія забаронныя тэмы ідзе гаворка? Культ Сталіна? Падзеі, звязаныя з ім? Ну што ж, раскаванасць сапраўды паявілася. Але і пытанні таксама. Напрыклад, мяне непакоіць адна неадчэпная думка: а ці не будзе эксплуатацыя антыкультаўскай тэмы выглядаць кан'юнктурай на фоне мноства антыкультаўскіх твораў?

На чым грунтуецца мая асцярога?

Кан'юнктура — гэта афіцыйная дазволенасць, нават пажаданасць, мода, думка, што пануе ў грамадстве, выгоды, адсутнасць страхаў за сябе і свой твор і ніякіх клопатаў. Усхваленне Сталіна і яго спраў для многіх пісьменнікаў было пропускам у літаратуру. А масавае развенчанне яго культу ці не стала кан'юнктурай для некаторых пісьменнікаў, што «мудра» чакалі свайго часу. Дзве супрацьлегласці? Мяркую, што не. Смеласць пасля дазволу — заплыў уніз па рацэ. Я не супраць антыкультаўскіх твораў. Наадварот. Але я за глыбокае, добрасумленнае асэнсаванне ўсяго спектра сталіншчыны, ад яго вытокаў да сённяшніх рэцыдываў. Сталіншчына— гэта не толькі Сталін, гэта цэлая філасофская сістэма ў дзеянні, і не разумець гэтага — значыць не разумець нічога.

Зрэшты, само разуменне забаронных тэм—паняцце малаакрэсленае. Адны забаронныя тэмы адмяняюцца, другія паяўляюцца. Так было. Хацелася б, каб так не было. Баюся, што гэта малаверагодна. І вось чаму. Здаецца, дыктат дзяржаўных цыркуляраў на забаронныя тэмы мы непрыкметна памянялі на дыктат густаў і амбіцый паасобных рэдакцый і рэдактараў, выдавецтваў і рэцэнзентаў, дзеянні якіх ніякімі цыркулярамі не прадугледжаныя, а таму непрадбачаныя. Каму на іх паскардзішся? Хто ад іх цябе абароніць? Небяспека рэальная.

Таму і думаеш пра ўнутранага твайго цэнзара: хто ён? Вораг ці дарадчык? Было б у нас шмат часопісаў розных накірункаў ды выдавецтваў не адно, а, напрыклад, дзесяць — можна было адпраўляць унутранага цэнзара на пенсію. А так, глядзіш, як напісаць, каб надрукавалі ў часопісе, не прычапіліся ў выдавецтве. Што грэху таіць, існуюць у нас і групавыя, і сацыяльныя, і нацыянальныя, і сяброўскія, і густавыя інтарэсы, якія хочаш не хочаш, а трэба ўлічваць. Брыдка? Безумоўна. Свабода — усвядомленая неабходнасць, але і суб'ектыўны рэдактар — рэчаіснасць.

І нарэшце, пытанне наконт почырку. Калі пад ім маецца на ўвазе літаратурны стыль, дык ён змяняецца хіба з гадамі. Пад старасць звычайна пішацца больш сумна: больш аддаеш увагі думцы, чым закручанаму сюжэту.

Трэба быць адданым і творчаму почырку, і сваёй тэме, не трэба, мне здаецца, іх змяншаць, трэба, зноў жа, на маю думку, пазбаўляцца ад метафізічнага ўспрымання свету, трэба наталяць душу аптымізмам, жыццялюбствам, якое ідзе ад кахання, ад пачуцця роднасці з народам, ад любові да гісторыі радзімы, традыцый і нораваў славяніна.

Пытанне наконт унутранага «цэнзара» хоць трошкі і правакацыйнае, але ж яно заслугоўвае ўвагі. Бытуе мудрае: «Калі мастак творыць, ён вольны, бо толькі вольны мастак і можа тварыць». Як бы хацелася, каб гэта было на практыцы. Хочаш не хочаш, а ўсе гэтыя «этапы-пакуты» творчасці мусіш прайсці сам, пакуль гэты самы цэнзар у тваёй душы не перародзіцца ў мудрага дарадцу, барацьбіта, калі хочаце. Напачатку паступова пазбаўляешся прымітыўнасці пераймання, пасля ад заліхвацкага жадання зарабляць грошы. На гэтым этапе найчасцей кіруе цэнзар. Пасля хочацца (ёсць процьма прыкладаў перад табой) выканаць праграму-мінімум, стварыць твор на прэмію — абавязкова ўра-ідэйны. І нарэшце прыходзіць (дай бог) час незалежнасці духа, свядомасці, сумлення. Шчаслівы той, хто прыйдзе да разумення сваёй місіі, адказнасці хутка, без страт (яны могуць быць жахлівымі) на творчым шляху, без спакусы пасядзець даўжэй на папярэдніх этапах «вучнёўства».

На жаль, пакуль на прыкладзе кіно, магу зазначыць, што адмена «заборонных» тэм, адмена цэнзуры спрыяе экраннай разбэшчанасці, культу голага цела. Жахліва, калі будзе ўладарыць над душамі такая «аднабаковая галоснасць». Літаратура ўсё ж рэч сур'ёзная, недарма гавораць, што «напісанае застаецца». Будзем спадзявацца на лепшае. Нам, беларусам, не сорамна ганарыцца сваімі калегамі, як ганарымся мы братамі-суседзямі рускім М. Рубцовым, армянінам Г. Матэвасянам, латышом І. Зіядонісам, чыя творчасць, дарэчы, таксама выпала на часы так званага застою.

*З пошты аддзела крытыкі і бібліяграфіі*

# Жыве ў Крыме паэт...

Шчыра кажучы, я не падзяляю пункт погляду выдаўцоў, якія ў анатацыі да кнігі Міхася Казакова (нешта накшталт выбранага) паспяшаліся аднесці аўтара да разраду «чыстага» лірыка: «У вершах беларускага паэта, пражываючага ў Крыме, гарманічна спалучаюцца якасці беларускай і рускай мовы. Лірычныя вершы паэта лёгка кладуцца на музыку, некаторыя з іх сталі песнямі».

Ідэйна-эстэтычны змест зборніка вершаў «Вечный родник» (Сімферопаль. «Таўрыя», 1988) спрачаецца з гэтай атэстацыяй, якая загадзя нацэльвае чытача на «камернасць» паэта. Так, у 70-я гады Міхась Казакоў, перапоўнены радасцю адчування, захапляўся лірычным героем, які рамантызаваў пачуццё і рэальнасць, можа, залішне прыгожа перажываў, вітаў зоры над галавой, якія пахлі хлебам... Але пазней у яго творах з'яўляецца новая псіхалагічна акрэсленая гама: вершы паэта набываюць сацыяльна-філасофскі падтэкст. Усё часцей і часцей звяртаецца ён да высноў грамадзянскага і патрыятычнага ў чалавеку, да яго ўнутранага свету, шукае форму самавыяўлення. Міхась Казакоў мог бы і застацца «чыстым» лірыкам, калі б не стаў яшчэ ў час вучобы ў Магілёўскім педінстытуце асобай, надзеленай актыўнай грамадзянскай пазіцыяй.

Памятаю, ён, «не облеченный» паўнамоцтвамі, дастукаўся да дырэктара педінстытута Папова і пераканаў кіраўніка, што студэнт, яго таварыш, мае патрэбу ў стыпендыі. Рана страціўшы бацьку, ён добра ведаў, па чым фунт ліха. Удзячны той таварыш запрасіў Міхася пагасцяваць у сваю па тым часе галаднаватую вёску. Там, у Забалацці, седзячы на прызбе сялянскай хаты, ён бавіў час у размовах з мужчынамі, пыхкаў казлінай ножкай, расказваў пра сваіх знакамітых землякоў, дрыбінскіх шапавалаў (мы ведалі са слоў Міхася, што яны маюць сваю «аўтаномную» мову, размаўляюць на такім дыялекце, што ніхто, каб і хацеў, ніколі не дазнаецца тайны іх рамяства). Міхась шчыра радаваўся, што ў Забалацці ён не адчуў адасобленасці вёскі: адкрыта жылі тут людзі, нават запрасілі госця на вяселле.

Першая тэнісная ракетка ў нашай альма-матэр, выдатнік вучобы, баец-цалліннік, знаўца спартыўных дасягненняў гіравікоў, стаераў, лёгкаатлетаў, шахматыстаў, Міхась Казакоў у 1959 годзе паехаў у Крым у час летніх вакацый. Прывезеныя з далёкай дарогі вершы пачаткоўца дружна ўхвалілі выкладчыкі-літаратуразнаўцы, а загадчык аддзела паэзіі часопіса «Маладосць» Мікалай Аўрамчык даў тым творам «зялёную вуліцу», а пасля стаў і «хросным бацькам» першай паэтавай кніжкі «Млечны шлях», адрэдагаваўшы яе на грамадскіх пачатках.

Так пачынаўся творчы шлях Міхася Казакова. Прыгадваецца і лета 1957 года, той цягнік, які вёз студэнтаў Магілёўскага педінстытута на цаліну. У вагонах — духацішча, за акном — сухмень, да Кустаная далёка. На чыгуначнай станцыі «Батракі» цягнік зрабіў прыпынак, і ўся разгарачаная студэнцкая братва, млеючы ад радасці, кінулася ў Волгу-матухну з галавой. Міхась таксама даў нырца з берага ў ваду. Выбраўся ж на мурожнік зацяты і заклапочаны.

— Бачыш, з самага берага плямы мазуты,— паказаў ён мне рукой у бок забруджанай мясціны-калыхуна. — Ты думаеш, што яна тут адна на паверхні? Псуюць заводчыкі Волгу, дый і параходства, відаць, дапамагае.

На цаліне, у Самане, вынасіўшы задуму, пасля працы на таку і склаў ён верш у абарону рускай вялікай ракі. Пазней я зразумеў, чаму яго ўладна прыцягваў да сябе чысты Табол (у рэчцы добра пачувалі сябе лупатыя ракі).

Рака была для Міхася і гісторыяй, і навіной, нязвыкласцю ў гэтым стэпе, дзе разрываліся па вечарах цыкады.

Паэзіі Міхася Казакова чужы абстрактны ідэал, ён імкнецца далучыць чалавека менавіта да прыроднага пачатку. Пошук першаасновы чалавечага быцця, яго вытокаў паяднаны ў вершах паэта з фактарам прыродным і духоўным.

...Жыве ў Крыме цікавы паэт, працуе намеснікам рэдактара абласной газеты (журналісцкая і грамадская практыка Міхася Казакова адзначана Граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета братняй нам рэспублікі). Светла паэту ад песень Максіма Багдановіча, на магілку якога ён штовесну, 25 мая, прыносіць кветкі. З добрай рукі Міхася, паўпрэда беларусаў на Украіне (так кажа ўсур'ёз і жартам сам пра сябе), на лапіку каля помніка Багдановіча, рассявае ўвесну ён жменю беларускай збажыны, каб узяўся ў рост колас, каб ведалі, што тут пахаваны сын вялікага народа.

Дзверы кватэры Міхася Казакова ў Ялце на Таўрычаскай вуліцы ў любы час дня і ночы гасцінна адчынены не толькі для землякоў-беларусаў. Ён жыве, як і раней, з любасцю да ўсяго славянскага веча.

Б. ЗУБКОЎСКІ.
г. Мар'іна Горка.

# З ПРОСЬБАЙ ДА ВЫДАВЕЦТВА

**У мінскіх кнігарнях з'явіліся тэматычныя планы цэнтральных і рэспубліканскіх выдавецтваў на 1990 год. Планы ляжаць на століках, у касе можна купіць паштоўкі і заказаць патрэбныя кнігі. Многія пакупнікі ўжо карыстаюцца гэтай паслугай.**

**Я хацеў бы выказаць свае меркаванні аб змесце і тыражах выдавецтва «Мастацкая літаратура» на 1990 год. Добра, што колькасць пазіцый у параўнанні з 1989 годам павялічылася з 160 да 177. І суадносіны беларускамоўных і рускамоўных выданняў паказальныя: 148 пазіцый — беларуская мова, 29 пазіцый — руская. Але давайце паглядзім на тыражы. Летась на старонках «Маладосці» друкавалася кніга папулярнага гісторыка М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь». Немагчыма было купіць часопіс у кіёсках, такая вялікая цікавасць была да гэтага твора. І вось выдавецтва друкуе гэты твор тыражом 30 тысяч экз. на 10 мільённую Беларусь! І гэта цяпер, калі адчуваецца вялікі «голад» на гістарычную літаратуру. Калі даць толькі па адной кнізе на школьныя бібліятэкі, то што застанецца на продаж?**

**З вялікай цікавасцю чакаю я новую серыю «Спадчына». У 1990 годзе будзем мець творы Б. Тарашкевіча, А. Мрыя, А. Арла, Старога Уласа і інш. Думаецца, варта выдаць гэтых аўтараў «нерэпрэсіраваным правапісам», так, як гэта зрабілі часопісы «Маладосць», «Полымя», «Беларусь». Вядома, што некаторыя беларускія пісьменнікі і паэты мінулага пісалі свае творы не толькі на беларускай мове, але часта і на польскай, рускай, лацінскай. Цікава і карысна было б прачытаць іх творы ў арыгінале, так, як яны былі напісаны ў свой час.**

**Дарэчы, так даўно ўжо робяць маскоўскія выдавецтвы «Художественная литература» і «Радуга», якія выдаюць паэзію на мове арыгінала і ў перакладзе паралельна. Тое ж самае практыкуюць і выдавецтвы ў ГДР.**

**На канец гэтага года запланавана кніга Сімяона Полацкага «Вирши».**

**Плануецца выдаць таксама Я. Баршчэўскага «Беларусь» у фантастычных апавяданнях» у перакладзе з польскай мовы. Хацелася б, каб гэта былі паралельныя тэксты на польскай і беларускай мовах.**

**Вось такія мае прапановы-просьбы да выдавецтва «Мастацкая літаратура». Што ж да іншых тэматычных планаў, то не знайсці там падручнікаў беларускай мовы, слоўнікаў, даведнікаў, размоўнікаў. Як жа адраджаць без усяго гэтага родную мову?**

**П. ЛУБОЎСКІ,**
**выкладчык БПІ.**

Магілёўшчыне гэты назоў выступаў у значэнні часткі.

Вяртаць словы з клінічнай смерці — то прадаўжаць духоўнае жыццё нашых руплівцаў — мовазнаўцаў І. Насовіча, С. Некрашэвіча, М. Байкова. Але перш за ўсё — ратаваць мову. Калі прыслухацца да парад майго чытача, то можна звесці невычэрпную мову да валапюка, на падхват ці для каларыту, як выкарыстоўваюць яе некаторыя вучоныя. Пасля можна засведчыць, што беларуская мова ўжо скончылася, вычарпалася, яе няма і нібыта ніколі не было. Заўжды была пад сумлівам. Так, нейкі дыялект паляшуцкай. Немаведама што.

Усё лятуць і лятуць тыя коні...

Чытач забараніў мне ўжываць слова «лятуць». Жывыя вочы маіх блізкіх стаяць за кожным «забракаваным» словам: «тамака» — так мовіў сусед, якога пінчуком клікалі — пэўне, з Піншчыны да нас заблукаўся. «Раўгеша», «сутонак», «гвязда» — слоўцы таты. Каму з беларусаў іх трэба тлумачыць?

Ужо з'явілася добрая традыцыя ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» — змяшчаць слоўнікі рэдка ўжывальных слоў у канцы зборнічкаў вершаў ці апавяданняў. Мусіць, з выдання чатырохтомніка М. Гарэцкага такое пачалося. «Маскоўска-беларускі слоўнік» братоў Гарэцкіх 1921 г. ляжыць у мяне пад рукой. Знайшлося б месца на маім цесным стале слоўнікам У. Караткевіча, Янкі Брыля ці Ларысы Геніюш. Кожны пісьменнік павінен укладаць свой уласны слоўнік! Мы дачакаліся таго спеўнага часу, калі ранейшыя слоўнікі перасталі лічыцца законам ці нормай. І лепей тыя дні не ўспамінаць супраць ночы!

Але жывая мова мае гэтульскі змесу, што не змясціць моўныя скарбы ў самыя дасканалыя і поўныя слоўнікі. Ды ўсе словы роўныя між сабою і маюць права на духоўнае жыццё. Навошта ж іх нішчыць?

Апанас Пятровіч Цыхун, працуючы на Гародзеншчыне ў народнай асвеце ў застойныя часы, вандраваў ад школкі да школкі, збіраў тапонімы Гародзеншчыны ды легенды, што іх тлумачаць. Але ўсе зборы Апанаса Пятровіча пакуль што ў скрыні ляжаць. Цяпер моладзь (а я з ёю) сцвярджае, што трэба вяртаць у мову знішчаны сталіністамі мяккі знак і шмат што з правапісу Браніслава Тарашкевіча. Самы час рыхтаваць рэформу мовы супраць рэформы 1933 года. І гэта павінна быць дзейнасцю «Мартыралога Беларусі». Але з выступленняў у друку кансерватыўных мовазнаўцаў відно, што ім такая справа не па нутру. Ім падабаецца плён іх шматгадовых здзяйсненняў — яны так наблізілі нашу мову да больш зразумелай і «роднай» ім рускай, што вяртацца назад, здаваць занятыя пазіцыі дабрахоць не збіраюцца.

Ці варта кранаць пытанне паэтычнага майстэрства і тлумачыць, што за тэрмінам Якуша «нескладуха» стаяць версэты ды верлібры, з поспехам распрацаваныя класікамі свету, а тэрміналогія іх тлумачыцца ў тых жа шматлікіх слоўніках? Але абараняць сябе я тут не буду. Бо што такое паасобныя лёсы ў агульнанароднай гісторыі? Люд пачне цаніць сваіх паэтаў тады, калі пазбудзецца на роднай зямлі псіхалогіі парабка, халуя, скіне з сябе спрадвечны горб. Калі мы перастанем быць чужынцамі ў вёсках і мястэчках. Калі зрусіфікаванае насельніцтва перастане нас прымаць за польскіх вандроўцаў, а начальнічкі за экстрэмістаў... Толькі таму, што не адракаемся ад беларускай мовы. Ад роднай мовы, не абароненай дзяржаўным законам, безабароннай.

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.**
г. Гродна.

# «КРУГЛЫ СТОЛ» «ЛИТЕРАТУРНОЙ УЧЁБЫ»

**Хоць часопіс «Литературная учеба» і не належыць да ліку самых чытэльных, што звязана з яго спецыфікай, думаем, прадстаўляць яго чытачу «ЛіМа» няма патрэбы. Добрай традыцыяй сталі ў часопісе сувязі з рэспубліканскімі маладзёжнымі выданнямі, «круглыя сталы», абмены публікацыямі. Так, у № 4 за 1988 г. Алесь Адамовіч прадставіў усесаюзнай аўдыторыі У. Арлова, Х. Лялько, У. Бутрамеева, Г. Булыку, Л. Галубовіча, А. Пісьмянкова. Там жа з разборам твораў выступілі Т. Чабан і А. Сідарэвіч.**

**Нядаўна ў СП БССР адбыўся «круглы стол», сустрэча супрацоўнікаў «Литературной учебы» Т. Шубінай, Л. Званаровай, Т. Абрамавай, літкансультантаў В. Грыдасавай і С. Казначэева з маладымі пісьменнікамі Беларусі, у тым ліку супрацоўнікамі часопіса «Крыніца». Гаворка ішла пра фарміраванне ў моладзі літаратурных густаў і маральных арыенціраў, пра выдаткі двухмоўя і цяжкасці двухмоўных выданняў, пра адказнасць літаратуры за зберажэнне нацыянальных каранёў.**

**НАШ КАР.**

## Да 45-годдзя з дня вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Пятрусь МАКАЛЬ

# ДЗЯЦЕЛ, ДЗЕ ТВАЁ ДРЭВА?

### СЦЭНЫ З ДРАМАТЫЧНАЙ ПАЭМЫ

**Падзея дваццацігадовай з нечым даўнасці (год 1968). У Тэатры юнага гледача, дзе адзін з нас працаваў загадчыкам літаратурнай часткі, узнікла ідэя паставіць спектакль па вершах паэтаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, ідэя прыйшлася нам па душы, захапіла нас. Мы рашуча ўзяліся за справу. Пачалі з таго, што сталі перачытваць вершы А. Астапенкі, М. Сурначова, Л. Гаўрылава, А. Жаўрука, А. Коршака, А. Ушакова і інш., сталі асэнсоўваць паэтычную спадчыну і чалавечы лёс тых, хто не вярнуўся з вайны. У выніку далейшай працы стала высвятляцца, што проста літаратурнай кампазіцыяй мы не зможам абмежавацца. Паўстала задача супаставіць вопыт розных пакаленняў, выявіць, у чым сапраўдная пераемнасць іх грамадзянскага і маральнага ідэалу, рэвалюцыйнага пачатку нашага жыцця і, нарэшце, паспрабаваць адказаць на пытанне, што значыць шанаваць памяць тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду Радзімы. Задача патрабавала адпаведнай мастацкай формы. Мы знайшлі яе, звярнуўшыся да жанру драматычнай паэмы, да такіх выяўленчых сродкаў, як паэтычны сімвал, гіпербала, сатырычнае завастрэнне...**

**Як потым склаўся лёс твора? Вельмі няўдала. Ён атрымоўваў высокую ацэнку, нам гаварылі добрыя словы, але... Але да пастаноўкі п'еса не была рэкамендавана. Інакш кажучы, забаронена. Няўдалымі былі і пазнейшыя спробы паставіць п'есу-паэму на сцэне.**

**Прапануем увазе чытача тры раздзелы з п'есы «Дзяцел, дзе тваё дрэва?»**

**Аўтары.**

## «Таварышы»

**Аднекуль з паўзмроку, як з глыбіні самой памяці, выходзяць адзін за адным загінуўшыя паэты. Магчыма, яны выглядаюць так, якімі яны маглі б быць перад сваім апошнім боем, перад сваім канцом. Адзін з перавязанай галавой, другі ранены ў руку, на гімнасцёрцы аднаго пятліцы, другога — пагоны (загінулі ў розны час вайны). Нехта гібее ў канцлагернай робе. Нехта робіць таропка запіс у блакноце — накідвае апошняе пісьмо ці радкі апошняга верша.**

**І зноў — прыглушаны, але настойлівы стук дзятла, як голас памяці, голас сумлення, як тэлеграф, які бясконца перадае сваю трывожную вестку.**

**Стукае дзяцел нядрэмна:**
**— Тук-тук-тук.**
**Дзяцел, а дзе тваё дрэва!**
**— Тут, тут, тут!..**

**Што ў цябе, дзяцел, за песні!**
**Дзяцел усё аб сваім, —**
**То недзе побач на ўзлессі,**
**То недзе ў лесе глухім.**

**Дзяцел не знае знямогі.**
**Зноўку я чую яго,**
**Дзятла маёй трывогі,**
**Дзятла сумлення майго.**

**Уваходзяць таварышы, і Равеснік узрушана ўглядваецца, то адступаючы, то падыходзячы бліжэй да іх. На яго твары — адбітак унутранай барацьбы, радаснага хвалявання і разгубленасці.**

РАВЕСНІК (як бы апомніўшыся). Мікола, ты?

МІКОЛА. Так, я. Пазнаеш?

РАВЕСНІК (ціха, з пачуццём). Пазнаю... (Да наступнага). Алесь, ты?

АЛЕСЬ. Так, я. Пазнаеш?

РАВЕСНІК. Пазнаю... (Да наступнага). Лёня, ты?

ЛЕАНІД. Так, я. Пазнаеш?

РАВЕСНІК. Пазнаю... (Да наступнага). Андрэй, ты?

АНДРЭЙ. Так, я. Пазнаеш?

РАВЕСНІК. Пазнаю... (Да наступнага). Змітрок, ты?

ЗМІТРОК. Так, я. Пазнаеш?

РАВЕСНІК. Пазнаю... (Напружваючы позірк, углядваецца ў твары тых, каго, можа быць, няма на сцэне.) Ты?

ГОЛАС. Я.

РАВЕСНІК (да другога нябачнага). Ты?

ГОЛАС. Я.

ТАВАРЫШЫ (усе разам). Пазнаеш?

РАВЕСНІК. Пазнаю... Як жа вас не пазнаць, сябры мае! (З наігранай бадзёрасцю.) Вы ж усё тыя, чэрці паласатыя! Гэта ўжо я, пачынаючы скляроцік, заслужаны гіпертонік, кавалер двух інфарктаў... А вы ж усё тыя, хлопчыкі! Як быццам бы і не было ўсіх гэтых гадоў. Як быццам... Чаму ж вы не заходзілі раней?!

ТАВАРЫШЫ (усе разам, ціха). Мы заходзілі...

РАВЕСНІК. Заходзілі? Пачакайце, калі?

ГОЛАС. Помніш, я аклікнуў цябе. Ты стаяў у чарзе. Ты не пачуў, здаецца. Было вельмі тлумна, ды я і сам не хацеў, каб ты страціў месца ў чарзе.

РАВЕСНІК. Праўда?

ДРУГІ ГОЛАС. А помніш, я дагнаў цябе на вуліцы, хацеў крануць за локаць... Але твае рукі былі заняты — яны трымалі руку жанчыны. Вам з ёю было не да мяне.

РАВЕСНІК. Праўда?

ТРЭЦІ ГОЛАС. А помніш, як я сустрэў цябе на вуліцы, і ты не заўважыў мяне: ты быў асляплены бляскам значка, які толькі што прышпілілі табе на грудзі. Зрэшты, ты тады не бачыў нічога і нікога.

РАВЕСНІК. Праўда?

ЧАЦВЁРТЫ ГОЛАС. А помніш, як я аднойчы пастукаўся да цябе.

РАВЕСНІК (з трывогай). Ну-ну?..

ЧАЦВЁРТЫ ГОЛАС. У тваёй кватэры гучаў вясёлы, задаволены рогат.

РАВЕСНІК. І што?

ЧАЦВЁРТЫ ГОЛАС. Ты адчыніў мне і сказаў: «Малады чалавек, вы пераблыталі дзверы...»

РАВЕСНІК. Праўда?

ПЯТЫ ГОЛАС. А помніш, як аднойчы...

РАВЕСНІК (адчуўшы віну і як бы апраўдваючыся). Ну, помню, ну, было... Было! Я ж жывы чалавек! Я ж... Такое яно — жыццё...

ГАЛАСЫ (няўмольна наступаючы, аддаючыся працяглым, поўным балючага дакору рэхам).

— А помніш?..

— А помніш?..

— А помніш?..

**Равеснік разгублена падаецца назад, ён у замяшанні.**

**Таварышы адзін за адным знікаюць. Равеснік як бы намагаецца затрымаць іх: «Хвілінку! Куды вы? Паслухайце!»**

**З'яўляецца ўкрадкам Таксама-равеснік. Заглядвае ў замочную шчыліну, назіраючы за Равеснікам.**

ТАКСАМА-РАВЕСНІК (укленчыўшы перад дзвярным вочкам). Што, загаварвацца пачынаеш? З прывідамі размову вядзеш?.. Глядзі, гэта можа дрэнна скончыцца. Пра здароўе падумай...

**Намагаецца як зручней прыладкавацца да замочнай шчыліны. Нешта стукнула, ён спалохана адхіляецца, але што гэта такое? У яго руках сама замочная шчыліна, аддзеленая ад дзвярэй. Мінутнае замяшанне Таксама-равесніка змяняецца радасным усведамленнем: якая знаходка! Цяпер ён сам бог з гэтай усебачнай прыладай! І ён, захоплены сваім адкрыццём, глядзіць праз замочную шчыліну на ўсё навакольнае — на Равесніка, на лес, на сякеру, на галінку, на залу...**

**Калі нават дзверы зачынены,**
**Яшчэ не зачынены свет.**
**Глядзіце ў замочныя шчыліны,**
**І ўбачыце свет вы як след.**
**Давайце разважым, прарокі,**
**Што лепей у гэтым жыцці,**
**Ці мець светапогляд шырокі,**
**Ці погляд вузенькі знайсці.**
**Пакутуе іншы востра,**
**Шукае свой свет, антысвет.**
**А ўсё адкрываецца проста:**
**Падглядвай, што робіць сусед.**
**З мяне вы ўсе кпіце няўдзячна.**
**А вам не прыйшло ў галаву,**
**Што я непрыкметна, нябачна**
**У кожным хоць крышку жыву.**

**Таксама-равеснік знікае. Равеснік стаіць, як і ў пачатку карціны, сам-насам перад акном.**

## «Ад дзвярэй да дзвярэй»

**Тут, за гэтымі дзвярамі, якія ў выглядзе лесвіцы ўзвышаюцца адны над другімі, свяшчэннадзейнічаюць тыя, ад каго залежыць: будзеце вы ўвекавечанымі або беззваротна канеце ў Лету. Не праходзьце міма без душэўнага хвалявання, без належнай пачцівасці, не рабіце міну, што вы можаце абысціся і без іх, без іх бронзы, гіпсу, мармуру і граніту. Дарэчы звярніце ўвагу на назву гэтай установы — «Мемарыяльна-манументальна-мастацкая майстэрня». Скарочана яна гучыць так: «ММММ». Паспрабуйце вымавіць гэтую на рэдкасць аднагучную абрэвіятуру. Гучыць, ці не праўда? Паэт бы назваў яе шчасліва знойдзенай алітарацыяй, матэматык узвёў бы ў дакладную формулу: эм у чацвёртай ступені. Але гэта ўсё, калі глядзець збоку. А супрацоўнікам майстэрні не да забаў. Для іх — гэта звычайная будзённая вытворчасць. Яны павінны даваць прадукцыю, выконваць свой план. Ці не аб гэтым вось ім напамінаюць лозунгі і дыяграмы: «Выканаем і перавыканаем», «Ніводнага подзвігу без помніка», «Увекавечым раней тэрміну», «Не пашкадуем сіл і бронзы!», «Наш гіпс самы трывалы ў свеце!»**

**З'яўляюцца: спачатку Юнак, потым Дзяўчына. Здаецца, яны яшчэ не зусім памірыліся. І ўсё ж яна ідзе за ім, а ён асабліва і не пярэчыць супраць гэтага. Толькі яму не падабаецца, што яна і тут не прамінула зазірнуць у люстэрка, палюбавацца сабой... Але адзін яго дакорлівы позірк, і яны абодва ва ўладзе той справы, на якую рашыліся. Рашыліся, але з чаго пачаць, як падступіцца да гэтай самай «ММММ»? У якія дзверы пастукацца?**

ЮНАК (храбрыцца). Пачнём з першых...

**Нясмела стукае ў дзверы. Яны адчыняюцца. За сталом — адзін з тых служачых, для якога канцылярыя — родная стыхія, які ўвесь свет бачыць скрозь параграфы інструкцый і цыркуляраў. Ён фетышызуе паперу, стварыў з яе куміра, і гэты кумір трымае яго ў сваёй уладзе.**

ПЕРШЫ СУПРАЦОЎНІК (вылазячы з папер, як бы ачуняўшы). Даведачку прынеслі?.. От і добра. Падколем яе, падшыем...

**Юнак і Дзяўчына недаўменна пераглядваюцца: «Пра што ён? За каго іх прымаюць?»**

ЮНАК. Прабачце, мы...

ПЕРШЫ СУПРАЦОЎНІК. А як жа інакш, маладыя людзі... Я справу ведаю, парадачак люблю... Вось форма нумар сорак адзін, параграф пяць... пункт «П»... Вы ў чарзе з якога часу?

ЮНАК (з хваляваннем). Ды не... мы... Маці адна засталася... Сын загінуў... Трэба ўшанаваць...

ПЕРШЫ СУПРАЦОЎНІК (працягваючы сваё, чытае інструкцыю). «...І ў тых выпадках, калі наяўнасць подзвігу засведчана, увекавечанню падлягаюць асобы ў тэрміны, устаноўленыя формай нумар... хвілiначку, я зараз вас азнаёмлю.. Вось яна... У мяне тут парадачак.

ЮНАК (разгублена). Сын загінуў... Маці адна... Усё чакае.

ПЕРШЫ СУПРАЦОЎНІК. Калі ласка, вось яшчэ дакуменцік... толькі што падпісаны... (Чытае ўсё тым жа тонам). Мемарыяльна - манументальна - мастацкая майстэрня, эм-эм-эм-эм, зыходзячы нумар сто дваццаць дроб пяцьдзесят ад сёмага пятага гэтага года... Выканала квартальны план на сто і адна дзесятая працэнта ў агульным аб'ёме... Па выкарыстанню матэрыялу: бронзы — на сто пяць, гіпсу—на сто шэсць, граніту — на дзевяноста дзевяць і дзевяць. Тут мы крышачку сэканомілі, а ўвогуле перавыдаткавалі...

**Заканчваючы фразу, супрацоўнік узнімае галаву і пераможна-задаволена**

## ПОДЗВІГ ЗАСТАЕЦЦА

**Іосіф Юр'евіч Філідовіч у час Вялікай Айчыннай вайны быў сувязным адной з партызанскіх брыгад, якая дзейнічала на тэрыторыі Гродзеншчыны. Гэты чалавек, выратоўваючы партызанскі шпіталь, завёў фашыстаў у багну.**

**...СТАЯЛА** восень сорак другога. Змрочны, цяжкі час. Агнём і мячом фашысты ўкаранялі новы парадак: палілі вёскі, вешалі і расстрэльвалі людзей. З кожным днём разгаралася партызанская вайна. Народныя мсціўцы разграмілі варожыя гарнізоны ў Дзярэчыне, Казлоўшчыне, Накрышках, Жалудку і іншых буйных населеных пунктах. Усё гэта ўстрывожыла акупантаў. Аператыўныя звесткі, якімі валодалі партызаны, сведчылі аб тым, што фашысты рыхтуюцца да буйной карнай аперацыі. На бліжэйшых станцыях у тэрміновым парадку разгружаліся войскі, пачасціліся вобыскі, арышты, расстрэлы. Гітлераўцы мелі намер у час блакады знішчыць у пушчы ўсіх, да аднаго, «бальшавіцкіх бандытаў».

Партызаны не выходзілі з жорсткіх баёў. Усё больш станавілася параненых. Што было рабіць з імі? Зімой у палатцы не пакладзеш, пакінуць на хутары ці ў вёсцы — вельмі рызыкоўна. Розныя былі прапановы. Але камандзіры сышліся на адным: тэрмінова арганізаваць пастаянны партызанскі шпіталь. Неабходна было адшукаць для гэтага глухое, надзейнае месца. Ліпічанская пушча вялікая, але... Тут на дапамогу партызанам прыйшоў сувязны з вёскі Пушча Ліпічанская Іосіф Юр'евіч Філідовіч, які сказаў, што ведае востраў сярод самага непраходнага балота, куды ніякі фашыст не прабярэцца.

Знаўца тутэйшых мясцін, найвопытнейшы паляўнічы І. Ю. Філідовіч сапраўды прывёў партызан на востраў, які стаяў сярод вялікага непраходнага нават у самыя моцныя маразы, балота. Прайсці туды можна было толькі па адной звілістай сцяжынцы, па нябачных, нават зблізку, кладках. Вакол — бяздонная дрыгва.

Тут, на востраве і абсталявалі шпіталь: выкапалі зямлянкі, пабудавалі хлебапякарню, лазню, склады. Усе аб'екты — у выглядзе пячор, каб не прыкмецілі з паветра. Праз некальні дзён партызанская лячэбніца пачала дзейнічаць! Параненых і хворых транспартавалі на спецыяльных насілках санітары. Да пачатку блакады на востраў паступіла каля пяцідзесяці параненых партызан.

**КАРНІКІ** жорстка лютавалі ў наваколлі, спалілі вёскі Дуброўка, Вялікая Воля, Трахімовічы, Гарадкі, шматлікія хутары

# ТАКАЯ НАША МУЗА...

**Гутарка з мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР А. АНІСІМАВЫМ**

**— «Анісімава вярнулі ў Мінск»,— гэта была адна з нечаканых навін так званай вуснай культурнай хронікі. Аляксандр Міхайлавіч, а ці сапраўды нечаканае было ваша вяртанне?**

— Бывае ў жыцці такі збег абставін... У Пермскім тэатры оперы і балета, дзе я працаваў, рыхтавалася першая ў краіне пастаноўка «Пены дзён» Э. Дзянісава. Але па розных прычынах, звязаных з цяжкасцямі ўвасаблення гэтага шмат у чым нязвыклага твора, прэм'ера была адменена. Я часова апынуўся ў творчым вакууме. Тады ж, як вы ведаеце, Беларускі тэатр оперы і балета перажываў жалобную падзею — пайшоў з жыцця Яраслаў Антонавіч Вашчак. Пад ягоным музычным кіраўніцтвам ажыццяўлялася пастаноўка оперы «Дзікае паляванне караля Стаха», і каб давесці спектакль да прэм'еры, калектыў пачаў шукаць дырыжора, які меў час прадоўжыць гэту работу. Звярнуліся да мяне. Пазнаёміўшыся з музыкай, я адчуў, што мне блізкая індывідуальнасць У. Солтана як музыканта, імпануе гэткі склад кампазітарскага таленту, і ўзяўся за працу.

**— І ўрэшце калектыў убачыў у вас асобу, здатную памагчы тэатру выйсці з тагачаснай заблытанай сітуацыі?**

— Прычынамі і тонкасцямі гэтай сітуацыі я не цікавіўся, хаця ведаў, што праходзілі бурныя сходы, выкліканыя нежаданнем аркестра і часткі оперных салістаў працаваць з галоўным дырыжорам Праватаравым. Я быў у тэатры госцем і меў адзіны інтарэс — добрае і сумленнае выкананне канкрэтнай прапанаванай работы.

**— Але ў маі вас запрасілі ў тэатр ужо не госцем, прапанавалі пасаду — новую, якой дасюль не было ў штатным раскладзе. Што ўсё ж такі адбылося? Не палічыце, калі ласка, гэтае пытанне некарэктным, бо чытач чакае сумленнай размовы...**

— Вядома! Справа ў тым, што Генадзь Панцеляймонавіч Праватораў як мастак, таленавіты чалавек не лічыў, што ў тэатры яго правільна разумелі, і не хацеў здаваць свае паўнамоцтвы. Таму Міністэрства культуры і дырэкцыя тэатра вырашылі скараціць пасаду галоўнага дырыжора і ўвесці пасаду мастацкага кіраўніка, на якую я і быў запрошаны.

**— Вы, такім чынам, апынуліся ў экстрэмальных умовах: трэба было «самавызначацца» ў прынцыпова новай якасці і ладзіць адносіны з галоўным дырыжорам, які фактычна павінен быў скласці свае паўнамоцтвы перад мастацкім кіраўніком...**

— Што значыць мастацкае кіраўніцтва тэатрам? У калектывах, дзе няма дырэктара, гэтая пасада ўключае і творчую, і фінансавую адказнасць: так працуюць Нарэйка ў оперным тэатры ў Вільнюсе, Асоўскі ў Камерным музычным у Маскве, Манастырскі ў Куйбышаўскім драматычным. З другога боку, Вялікі тэатр Саюза ССР, які мае дырэктара, мае і мастацкага кіраўніка Лазарава. Я дапускаю, што ў нашым тэатры такая пасада — часовая мера, эксперымент. Але бачу сваю справу ў кансалідацыі галоўных спецыялістаў, бо зараз адчувальная канфрантацыя паміж цэхамі балета і оперы, а трэба дасягаць дыялектычнай самастойнасці двух гэтых партнёраў у агульным жыцці тэатра.

Наш тэатр музычны, і праца галоўнага дырыжора ўжо сама па сабе нясе функцыі мастацкага кіраўніцтва, бо менавіта галоўны дырыжор знаходзіцца ў цэнтры пытанняў рэпертуару, ягоны густ уплывае на выбар партытур — як оперных, так і балетных. Таму, калі з часам наш тэатр вернецца да ранейшай мадэлі кіравання, гэта нічога не зменіць у агульнай творчай сітуацыі, не зменшыць, так бы мовіць, колькасць брыльянтаў у маёй кароне, не зробіць страту ў зарплаце — яна ў мяне тая ж, што ў галоўнага дырыжора.

Што датычыць маіх узаемадачыненняў з нядаўнім галоўным дырыжорам Праваторавым... Я не ведаю ягоных планаў, але калі гэтыя планы будуць у суладдзі з задачамі тэатра, дык Генадзь Панцеляймонавіч будзе з'яўляцца за пультам нашага аркестра і праводзіць цяперашнія свае спектаклі: «Рамэа і Джульета», «Кавалер руж», «Вайна і мір», «Вясна свяшчэнная». Адносіны ў нас нармальныя.

**— Аляксандр Міхайлавіч, яшчэ адно «недалікатнае» пытанне. Колькі гадоў таму вы таксама развіталіся з пасадай галоўнага дырыжора ў нашым тэатры. Былі самыя розныя чуткі. А што здарылася тады ў сапраўднасці?**

— Гэта, напэўна, «хвароба» любога мастака — шукаць новага вітку спіралі, па якой развіваецца творчае жыццё. Такі пошук азначае жаданне якіх-небудзь перамен і не заўсёды звязаны са зменай месца працы. Пяць гадоў я быў галоўным дырыжорам ДАВТа БССР, меў ужо чатыры пастаноўкі і рыхтаваўся да працы над пракоф'еўскім шэдэўрам — «Вогненным анёлам». Але час быў застойны, і мне проста не далі магчымасці ўвасобіць у Мінску гэты неадназначны па змесце оперны твор. Да таго ж, у мяне ў той час узніклі сямейныя складанасці... Словам, Мінск давялося пакінуць. Чатыры з паловай гады прабыў галоўным дырыжорам Пермскага тэатра, паставіў больш чым дзесяць спектакляў — гэта каласальны вопыт, які за такі тэрмін немагчыма набыць на сталічнай сцэне. Меў добрыя творчыя кантакты з іншымі музычнымі калектывамі, цікавыя гастролі з вакалістамі, неўзабаве планавалася паездка разам з пермскім балетам у Японію, у Англію. Немалаважна, што і з кіраўніцтвам горада ў нас склаліся цёплыя адносіны. Але я пакрывіў бы душою, калі б сказаў, што мне не хацелася пакідаць Перм і зноў ехаць у Мінск. Відаць, мажлівасці творчай працы ў дыхтоўных, але ўсё ж такі перыферыйных умовах я ўжо вычарпаў, і надышоў час для новага вітку спіралі.

**— Праўда, новы віток вашага творчага жыцця пачынае разгортвацца не ў лепшых умовах. Калі гадоў 10 таму вы ўпершыню сталі за дырыжорскі пульт мінскага тэатра, побач былі спрактыкаваныя і адметныя майстры — калегі па дырыжорскім цэху. За апошні час усё рэзка змянілася.**

— Так, яшчэ год-паўтара таму мог быць толькі адзін аналаг дырыжорскага корпусу ДАВТа БССР, яго музычнаму ўзроўню ўвогуле,— гэта Вялікі тэатр Саюза ССР. Яраслаў Вашчак, Таццяна Каламійцава, Уладзімір Машэнскі, Генадзь Праватораў — гэта не толькі дырыжоры высокага класа, гэта, я сказаў бы, тэатр у тэатры. Бо кожны з іх быў галоўным спецыялістам у сваёй пастаноўцы. Такім сузор'ем дырыжорскіх індывідуальнасцей не мог пахваліцца ніводны калектыў у краіне — апроч, паўтару, Вялікага тэатра. Але час ідзе... Не стала Вашчака. Каламійцава, як прынята гаварыць, на заслужаным адпачынку, зрэдчас выходзіць за пульт — дырыжыруе сваёй пастаноўкай, операй «Казкі Гофмана», адным з лепшых спектакляў цяперашняга рэпертуару. Пад уплывам розных складаных прычын пайшоў з тэатра Машэнскі. Становішча сапраўды цяжкае. Таму я хацеў бы прыцягнуць да працы ў тэатры на аснове дагавору вядучых мінскіх сімфанічных дырыжораў: Ю. Яфімава, Ю. Цырука, В. Лявонава, пазнаёміцца з маладымі дырыжорамі, якіх, праўда, у нас мала.

Думаю наладзіць практыку знаёмства з дырыжорамі з розных гарадоў, каб у выніку такіх прафесійных агледзін (запрашэнне правесці спектакль), калі нават не браць кагосьці на штатную працу, дык замацоўваць за канкрэтнымі гастралёрамі асобныя нашы спектаклі.

Я таксама звярнуўся ў СТД з ініцыятывай — правесці на базе нашага тэатра I Усесаюзны конкурс дырыжораў музычных тэатраў. Падобныя конкурсы ёсць на аснове сімфанічных жанраў, ды чамусьці нікому дасюль не ўспадзе на думку, што праца дырыжора ў оперы, балеце, музычнай камедыі мае вельмі складаную спецыфіку. Вось і паспрабуем у сябе наладзіць такі агляд дырыжорскіх сіл. Гэта будзе перадусім музычнае свята. Гэта будзе своеасаблівая «палітычная акцыя» — менавіта ў нашым тэатры, вядомым сваімі яркімі традыцыямі дырыжорскага прафесіяналізму, павінен праходзіць такі конкурс.

**— А ці забяспечыць наш тэатр паўнацэнны рэпертуарны спектр для такога спаборніцтва? Ёсць жа вельмі старыя пастаноўкі, скажам, «Князь Ігар», «Аіда». «Царская нявеста», дэкарацыі ў іх выглядаюць ужо неэстэтычна, харавыя мізансцэны захоўваюцца прыблізна, ансамблі «развальваюцца». З якім настроем будуць працаваць у такіх спектаклях маладыя дырыжоры?**

— Тэатр—гэта, вядома, сінтэз. Сам я доўгі час «хварэў на сінтэз», намагаючыся ўвабраць у свет уласных эмоцый усё — ажно мастацтва грымёра і самаадчуванне спевака. Праз гэта ўзнікалі дадатковыя перажыванні, лішняя нервовасць, і цяпер я прапаведую крыху іншае. Так, тэатр —сінтэз. Ды калі кожны, хто працуе на гэты сінтэз, будзе пераключаць сваю ўвагу на тое, што робяць ягоныя калегі, ён не зможа з поўнай аддачай займацца сваёй уласнай справай. Павінна быць кааперацыя добрых спецыялістаў, цалкам адданых справе, дзе кожны асабіста адказвае за сваё,— тады будзе і цэласны вынік. Упэўнены, што ён толькі тады і будзе паўнацэнным, калі кожны — на сваім месцы, працуе без пабочнай мітусні і лішніх слоў пра «агульную справу». Дырыжор павінен займацца музычным абліччам спектакля, а не яго рэкламай ці абмеркаваннем дэкарацый. Грымёр — дбаць пра сцэнічны партрэт артыста, гардэробшчык — пра культуру абслугоўвання гасцей тэатра і г. д.

**— Але ж не ўсё залежыць ад сумленнасці і прафесіяналізму асобных людзей. Састарэлыя спектаклі, што тут ні рабі, усё роўна псуюць аблічча тэатра.**

— Ад старога грузу, безумоўна, трэба пазбаўляцца. Тут патрэбна разумная прапорцыя пастаноўкі новых і абнаўлення старых спектакляў. Паспрабую растлумачыць. У гэтым сезоне ў нас выйшлі два балеты—«Рамэа і Джульета», «Дон Кіхот» і толькі адна опера — «Дзікае паляванне...» Мала! Як мінімум павінна быць 4 новых спектаклі, а лепш 5—6. Чаму ў тэатры «Эстонія» штосезонна выходзіць 6—8 новых спектакляў, хоць і дзяржаўная датацыя там амаль такая ж, як і ў нас? Адна з прычын тая, што ў «Эстоніі» значна меншая сцэна. Сапраўды, мы неяк забываемся, што ДАВТ БССР мае вялікую сцэну, як у Вялікім тэатры ў Маскве ці ў Кіраўскім у Ленінградзе. Яна вымагае столькі разнастайных матэрыялаў на бутафорыю, тканіны на дэкарацыі, яна вымагае значных па колькасці калектываў хору, кардэбалету, мімансу,— і ўсіх гэтых людзей трэба апрануць, забяспечыць рэквізітам. А ці задумваўся хто-небудзь, што ўсе патрэбныя тэатру матэрыялы з году ў год робяцца даражэйшымі, у той час як датацыя не павялічваецца і памеры сцэны не памяншаюцца? Вось і бывае, што адна новая пастаноўка «з'ядае» сродкаў за дваіх. Абнаўленне спектакля каштуе менш.

Праўда, нашы творчыя і адміністрацыйныя службы не заўсёды абачлівыя, нестае ім прафесійнай рэгламентацыі, таму і заказваюць грандыёзнае афармленне, коштам сметы двух спектакляў. Фантазія, вядома,—

# Жывы, сучасны!

**«ДОН КІХОТ» — прэм'ера Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР**

Ён зусім не падобны да стодвaццацігадовага старога! Нішто ў ім не разлічана на павагу да сівізны, нішто не нагадвае пра паходжанне яго з мінулага стагоддзя. Ён па-маладому жыццярадасны і досыць сучасны. І гэтым ён абавязаны творчай групе пастаноўшчыкаў: балетмайстру В. Елізар'еву, дырыжору М. Калядку, мастакам У. Окуневу і І. Прэс. Менавіта яны далі яму, знакамітаму балету Л. Мінкуса «Дон Кіхот», новае жыццё на беларускай сцэне. Тут ён, вядома, не дэбютант. Яго некалькі разоў ставілі беларускія харэографы, імкнучыся, каб артысты і гледачы не забывалі цудоўныя класічныя творы. Кожны з пастаноўшчыкаў пасвойму рэдагаваў тую, што стала «акадэмічнай», харэаграфію, якая складвалася на працягу многіх дзесяцігоддзяў жыцця балета. Па-свойму зрабіў гэта і В. Елізар'еў. Пакінуўшы лепшыя са сцэн і танцаў, аўтарства якіх належыць М. Пеціпа, А. Горскаму, К. Галяйзоўскаму, ён арганічна ўключыў іх у агульную харэаграфічную тканіну, расквеціў гумарам, трапнымі мізансцэнамі.

За доўгае сцэнічнае жыццё «Дон Кіхот», увабраўшы ў сябе прыдумкі многіх, зрабіўся крыху цяжкаватым і рыхлаватым кангламератам старадаўніх пантамім, бравурных танцаў, віртуозных варыяцый, якія кожная з балетных «зорак» насычала сваімі «ультра-сі», самымі апошнімі асабістымі дасягненнямі ў тэхніцы класічнага танца. Часам нават увесь спектакль успрымаўся як прэлюдыя, як своеасаблівы трамплін да «зорнай» кульмінацыі ў фінальным па-дэ-дэ. Дарэчы, апошні раз такі балет я бачыла нядаўна ў Пекіне ў пастаноўцы Нурыева. Шматлікія сцэны і танцы цягнуліся замаруджана, быццам доўгі чыгуначны састаў на перагонах, каб набраць раптам імклівую хуткасць у канцы, дзе літаральна ракетай узвіваўся ўвысь Вадзім Пісараў, запрошаны ў Кітай разам з іншымі савецкімі артыстамі.

Беларускі спектакль не разлічаны на «зорны» эфект. Мастацка-эстэтычнае ўражанне нараджаецца тут у выніку гарманічнай еднасці і высокага ўзроўню ўсіх кампанентаў: культуры аркестра і дырыжора, незвычайнай прыгажосці касцюмаў і маляўнічасці дэкарацый, і, канечне ж, цудоўнай работы балетмайстра, прафесіяналізму выканаўцаў.

Імкнучыся пазбегнуць дывертысментнасці, нярэдка ўласцівай іншым сучасным пастаноўкам «Дон Кіхота», што разбівае спектакль на цэлы шэраг асобных фрагментаў, В. Елізар'еў робіць скразнымі многія персанажы, якія раней з'яўляліся толькі эпізадычна. Героямі балета, такім чынам, побач з Кітры і Базілем, Дон Кіхотам і Санча Пансам робяцца Эспада і вулічная танцоўшчыца Мерседэс, Гамаш, Амур і Дульсінея, што, бясспрэчна, надае драматургіі больш цэласны і дзейсны характар. Глядач не сумуе таксама і таму, што ў спектаклі няма старых пантамім, што харэограф мудра чаргуе разгорнутыя танцавальныя ансамблі з жывымі ігравымі сцэнамі, лірыку з бравурам, сольныя варыяцыі з танцамі кардэбалету. Многія з іх, такія, як бліскучае трыо



Сцэна са спектакля «Дон Кіхот».

Фота А. КАЛЯДЫ.

гэта фантазія, усе мастакі — індывідуалісты, але... Але, напрыклад, Стравінскі любіў, калі яму казалі канкрэтна: тут музыка павінна гучаць тры мінуты і має быць напісана для пяці інструментаў,— вось тады, маўляў, і будзе натхненне. На жаль, большасці дзеячаў савецкага тэатра нестае мудрасці суадносіць сваё натхненне з задачамі тых, хто працуе поруч. Нестае пачуцця гаспадара.

**— І безгаспадарчасць, і пэўная коснасць адміністрацыйна-творчага ўкладу вялікіх тэатраў выявіліся даўно. Пра мадэрнізацыю структуры такіх традыцыйных вытворча-творчых арганізмаў была, дарэчы, грунтоўная гаворка і ў Мінску — пазалетась, пад час І Усесаюзнага фестывалю музычных тэатраў. Мы, вядома, не зможам тут жа з вамі абмеркаваць гэтыя праблемы. Але зараз, калі ўжо загаварылі пра адраджэнне пачуцця гаспадара ў тэатры, можа, падзеліцеся сваімі намерамі: чым вы, мастацкі кіраўнік, рэальны гаспадар, зоймецеся ў бліжэйшы час?**

— Мы павінны неадкладна знайсці дыхтоўны Палац культуры, адміністрацыя якога пагадзілася б зрабіць на яго базе камерную сцэну ДАВТа. Гэта быў бы палігон для творчых работнікаў, дзе паралельна з асноўнай сцэнай маглі б ставіцца цікавыя камерныя, эксперыментальныя музычныя спектаклі. Пашыраўся б рэпертуарны дыяпазон, вырашалася б праблема занятасці салістаў (іх сёння больш, чым патрабуецца для наяўнага аб'ёму сцэнічнай працы, далёка не кожны мае магчымасць рэгулярна сустракацца з публікай).

У салідным тэатры павінен быць і дзіцячы філіял — трэба падумаць пра гэта. На базе такога філіяла павінен ствараць дзіцячы музычна-тэатральны рэпертуар, прыдатны для паказу не на вялікай нашай сцэне, а ў студыйных умовах, з удзелам саміх дзяцей. Чаму б не мець у Мінску такую студыю опернага выхавання, у якой дзеці далучаліся б да эстэтыкі музычнага тэатра? З часам яны маглі б удзельнічаць і ў вялікіх спектаклях на асноўнай сцэне.

Урэшце, з'яўленне новых сцэнічных пляцовак стымулявала б творчасць беларускіх кампазітараў і дапамагала б нашаму тэатру кампенсаваць дэфіцыт нацыянальна адметнага рэпертуару.

Думаю, нам варта асвоіць і такую форму працы, як канцэртнае выкананне опер. Пры нашай пастановачнай няўклюднасці многія творчыя задумкі дырыжораў і салістаў не рэалізуюцца. А гады ідуць. Канцэртнае выкананне ўлюбёных твораў, дапусцім, «Трубадура», сіламі нашых артыстаў, можна і з запрашэннем «зорак»-гастралёраў, ажывіць і працу тэатра, і цікавасць публікі.

**— Наконт новых форм: Аляксандр Міхайлавіч, адзін з канцэртаў леташняй «Беларускай музычнай восені» правёў аркестр ДАВТа БССР пад вашым кіраўніцтвам. Вы суправаджалі выступленні маладых оперных салістаў, якіх прадстаўляла старшыня праўлення Усесаюзнага музычнага таварыства Ірына Архіпава. Выконваліся і аркестравыя фрагменты з опер. Праграма мела поспех...**

— Дэбют у філармоніі быў удалы, і ў наступным сезоне мы плануем выступіць яшчэ з дзвюма праграмамі. На жаль, акустычныя хібы не дазваляюць наладжваць канцэрты аркестра на ўласнай нашай сцэне. Калі б спецыялісты дапамаглі прыдумаць нейкія прыстасаванні, каб аркестр тэатра паўнацэнна гучаў не толькі ў яме, а і на сцэне,— мы з задавальненнем ігралі б у сябе «дома».

А той філарманічны канцэрт не быў выпадковасцю. З Архіпавай у нас даўні творчы кантакт, абое мы пераканаліся ў неабходнасці выяўляць і падтрымліваць маладых салістаў, клапаціцца пра перспектыву развіцця рэзерваў опернага выканальніцтва. У Пермі я дамагаўся аптымальнага спалучэння ў опернай трупе вядучых салістаў старэйшага, сярэдняга пакаленняў і моладзі, у выніку сфарміравалася самая маладая, паводле сярэдняга ўзросту, трупа ў краіне: трэцюю яе частку склалі людзі да 30-ці гадоў. Цяпер такую работу трэба распачынаць у Мінску. Будзе цяжка: часта вядучыя спевакі хваравіта пераўжываюць увагу тэатральнага кіраўніцтва да моладзі. Але без арыентацыі на маладых тэатр губляе перспектыву.

Мы не маем цяпер магчымасці запрашаць на працу людзей без мінскай прапіскі. Таму трэба быць асабліва ўважлівымі да выхавання маладога папаўнення, зрабіць больш плённымі сувязі з Беларускай дзяржаўнай кансерваторыяй. Скажам, оперная студыя там працуе ў цяжкіх умовах, а мы можам памагчы — і тады замест кепскай пастаноўкі на базе БДК будзе супольны спектакль — паўнацэнны, на сцэне тэатра...

**— Аляксандр Міхайлавіч, а як будзе фарміравацца ваша рэпертуарная афіша?**

— Цяпер у тэатры ідзе работа над операмі «Маддалена» С. Пракоф'ева (рэжысёр С. Штэйн, мастак Л. Ганчарова, з імі працую я) і «Медыум» Д. Меноці (вядомая пазапланавая пастаноўка С. Штэйна пераносіцца на вялікую сцэну; дырыжор М. Калядка, мастак Я. Ждан). Прэм'еры — у наступным сезоне. Затым «Кармэн» (рэжысёр В. Цюпа, мастак У. Жданаў, музычнае кіраўніцтва ажыццяўляю я). Да 150-годдзя з дня нараджэння П. Чайкоўскага будзе пастаўлены балет «Спячая красуня». У планах і новыя партытуры беларускіх кампазітараў: буйную работу па матывах булгакаўскага «Майстра і Маргарыты» завяршае Я. Глебаў, А. Мдзівані прапанаваў балет «Рагнеда», оперу для дзяцей напісаў У. Кандрусевіч... Ёсць і будуць таксама іншыя прапановы. Але мая асабістая пазіцыя ў рэпертуарнай палітыцы такая: акадэмічны Вялікі тэатр павінен весці сваю работу, захоўваючы пэўную цыклічнасць. Гэта значыць, аддаўшы даніну, напрыклад, рускай класіцы, для наступнай пастаноўкі выбіраць твор заходняй класікі, потым — беларускую оперу ці балет, твор сучаснага замежнага аўтара, твор аўтара адной з саюзных рэспублік і г. д., паслядоўна паўтараючы гэты «рэпертуарны круг».

Усцешна, што першай маёй работай пасля разлукі з Мінскам сталася беларуская опера, прытым, доўгачаканая: з часу «Новай зямлі» Ю. Семянякі, над якой працаваў таксама я, у тэатры на працягу сямі гадоў не было прэм'ер нацыянальных опер... Абуджаны рух да нацыянальнай самасвядомасці паўсюдны і незваротны. І, я лічу, важна, каб мастакі, якія бяруцца за ўвасабленне нацыянальнай тэмы, знаходзілі ў гэтым радасць, а не проста неабходнасць. Таленавітыя кампазітары на Беларусі ёсць, і трэба, каб тэатр гасцінна прымаў іх, каб расхінуў дзверы не толькі перад масцітымі аўтарамі, а і перад маладымі, каб не быў тэатрам двух-трох аўтараў.

І яшчэ хацелся б выправіць вялікія пралікі ў палітыцы колішняга кіраўніцтва Міністэрства культуры БССР ды і нашага, тэатральнага, з-за якіх мы засталіся ці не адзінай сталічнай трупай, чыіх оперных работ не ведаюць нават бліжэйшыя суседзі за мяжой. (Я не кажу пра беларускі балет, які даўно мае міжнародны поспех.) У нас моцныя дырыжорскія і сцэнаграфічныя традыцыі. У нас ёсць салісты, вартыя не толькі рэспубліканскага і ўсесаюзнага ўзроўню. І мы павінны скарыстаць магчымасці сённяшняга дэмакратычнага часу, наладзіць кантакты, паказаць нашы оперныя набыткі за мяжой.

Не падумайце, што ўсе гэтыя меркаванні ўзніклі ў мяне пасля таго, як я 15 дзён пасядзеў у крэсле мастацкага кіраўніка. Пятнаццаць гадоў ужо я ў музычным тэатры, і ўсё, пра што сёння гаварыў,—гэта плён вопыту і вялікага жадання быць карысным таму Богу, якому мы служым: музыцы. Жадання прынесці карысць тэатру.

**— Разумею вас, Аляксандр Міхайлавіч. Ведаю, якой самааддачы вымагае творчая праца, служэнне музыцы... Жадаю вам плёну і стабільнасці ў працы, дзякую за шчырую размову.**

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ.**

*Тэатр*

# Ёсць «Шанц»!

«Пошук новых форм, новых мастацкіх ідэй, выяўленне наватараў і талентаў»,— гэткай была абвешчана мэта эксперыментальнага тэатра «Шанц» пры Саюзе тэатральных дзеячаў Беларусі, аб адкрыцці якога стала вядома ў кастрычніку мінулага года. Што і казаць — словы гучныя. А справы?..

У эксперыментальны тэатр паверылі, хоць, вядома, можна пазайздросціць рашучасці маладога рэжысёра Сусаны Цырук, якая першую пастаноўку ў сваёй творчай біяграфіі рызыкнула звязаць з новаароджаным «Шанцам». Нельга не захапіцца і апантанасцю акцёраў Рускага тэатра БССР Яўгена Лявонцьева, Валерыя Шушкевіча, Аляксандра Якаўлева, Андрэя Душачкіна, Андрэя Захарэвіча і Аляксея Нілава.

Да творчых імкненняў эксперыментатараў з увагай паставіліся ленінградскі мастак Таццяна Каралёва, кампазітар Сяргей Картэс і балетмайстар Эма Трусава. І, нарэшце, выхаднік «Шанца» — рэжысёр Валерый Маслюк, які даў прытулак першапраходцам пад дахам свайго тэатра.

Рэжым працы экстрэмальны. І ўсё ж, да гонару энтузіястаў, мастацкая задача ставілася не з простых — адкрыць новае для тэатральнага Мінска імя драматурга. Да пастаноўкі бралася п'еса «Пра тое, як пан Макінпот ад сваіх нягод пазбавіўся» Петэра Вайса. Не маюць шырокага распаўсюджвання і своеасаблівыя сродкі сцэнічнага ўвасаблення твораў палітычнага, «актуальнага» тэатра, якімі з'яўляюцца п'есы П. Вайса. На сённяшні дзень адзінкавыя ў рэспубліцы пастаноўкі твораў Б. Брэхта, паслядоўнікам якога лічыцца П. Вайс, толькі распальваюць смагу да авалодання жанрам умоўнай камедыі, балаганнага лубка.

Галоўная думка п'есы П. Вайса пэўная і празрыстая: абудзіць самасвядомасць «маленькага чалавека» — Макінпота. З вызначальных для асобы сувязей — у сям'і, на працы, з уладамі і нават з самім Госпадам Богам — складасцца ланцуг антычалавечых адносін, якія пранізваюць усю піраміду грамадскага жыцця. Асноўны рэжысёрскі прыём таксама дакладна заяўлены — адкрытая гульня. Навідавоку выканаўцы разыгрываюць з Макінпотам адзін за адным прапанаваныя драматургам эпізоды. Прадстаўленыя ў гранічна абвостранай форме абсурдныя сітуацыі выкрываюць абсурднасць зусім рэальнай сацыяльнай сістэмы.

Захоўваючы агульную грамадзянскую накіраванасць твора П. Вайса, стваральнікі спектакля робяць акрэслена драматычны яго фінал, што можа надаць асаблівае гучанне пастаноўцы ў цэлым. У п'есе Макінпот пазбаўляецца няшчасцяў, — спасцігае іх сацыяльныя вытокі, чым фактычна дзеянне і заканчваецца. У спектаклі гісторыя Макінпота атрымлівае пэўную папраўку на час і пашыраецца да разумення суняршчасці яе выніку.

Па задуме рэжысёра, у фінале Макінпот, падахвочаны магутным гулам апладысментаў, сам пачынае гаварыць пустазвоннай мовай лозунгаў і афіцыйных прамоў. Сцэнічны герой, пазбавіўшыся сваіх няшчасцяў, у нейкай ступені сам становіцца носьбітам няшчасцяў для іншых. Такім чынам спектакль павінен сцвярджаць неабходнасць духоўнага адраджэння чалавека, і разам з тым, успрымаецца як папярэджанне.

Апрача мастацкіх задач, стваральнікам спектакля давялося рашаць шмат праблем, так сказаць, «пазамастацкіх». Перш за ўсё весці доўгатэрміновыя «дыпламатычныя» перагаворы, каб узгадніць умовы рэпетыцый на сцэне, ды яшчэ каб з музыкай і святлом. Што тычыцца ўстаноўкі дэкарацыі, дык за яе браліся акцёры. Увогуле, праблемы з арганізацыяй рэпетыцый узнікалі літаральна на роўным месцы — з нічога, і на вырашэнне нават самай мізэрнай трацілася жывая, стваральная энергія ўдзельнікаў спектакля. І ўсё ж, і ўсё ж...

Першае прадстаўленне адбылося 22 мая. Цёплы, добразычлівы прыём гледачоў. Разам з тым паўсталі новыя задачы: дакладна вызначыць і ярка раскрыць моманты непасрэдных кантактаў з глядзельнай залай, якія ўваходзяць састаўной часткай у мастацкі лад палітычнага спектакля.

Праца завершана. Праца працягваецца...

**Ала САВІЦКАЯ.**

Кітры, Базіля і Эспады, элегантны «Ажываючы сад», тэмпераментны Цыганскі, энергічнае Фанданга, жартоўныя мізансцэны, прыдумаў сам В. Елізар'еў, і, дадаючы свежых фарбаў, яны не выбіваюцца з агульнай стылістыкі спектакля, якая захоўвае непасрэднасць і мажорнасць светаадчування мінулага балетнага веку. Так, В. Елізар'еў тут надзіва вясёлы і прастадушны. Такім чынам раскрываецца яшчэ адна нечаканая грань таленту харэографа, пра якога мы прывыклі думаць як пра філосафа, трагіка, публіцыста.

Прывабнасці беларускага «Дон Кіхота» бясспрэчна садзейнічае цудоўная інтэрпрэтацыя галоўных, сольных і кардэбалетных партый. Сучаснае тэлебачанне, якое даволі часта знаёміць нас з лепшымі балетнымі спектаклямі, міжнароднымі конкурсамі, самымі лепшымі танцоўшчыцамі і танцоўшчыкамі свету, так высока ўзняло планку майстэрства, што на гэтых галавакружных вышынях цяжка бывае нават самым выдатным артыстам, бо ім даводзіцца канкурыраваць з унікальнымі талентамі. Беларускія артысты дастойна выглядаюць у гэтым усеагульным сусветным спаборніцтве. І першай сярод іх трэба назваць, безумоўна, І. Душкевіч, якая за выкананне па-дэ-дэ з «Дон Кіхота» заваявала ў свой час званне лаўрэата на ўсесаюзным конкурсе і нямала дасягнула з таго часу ў мастацтве балета. Яе Кітры не падобна ні на адно з вядомых тварэнняў М. Плісецкай, К. Максімавай, Л. Семянякі. Кітры — Душкевіч зачароўвае індывідуальнымі, толькі ёй характэрнымі рысамі, сярод якіх — асаблівая ўнутраная прыгажосць, духоўнасць, дасканаласць ліній. Сталасць і выразнасць у чарговы раз прадэманстраваў яе партнёр У. Іваноў у ролі Базіля. З ім з поспехам спаборнічае А. Карзянкоў (Эспада), танцоўшчык, які імкліва набірае акцёрскае майстэрства, тэхніку, а значыць, і вядучыя ролі і прыхільнікаў сярод гледачоў.

Нямала добрых слоў можна сказаць і пра выканаўцаў іншых роляў: А. Фурмана (Гамаш), Н. Дадзішкіліяні (Дульсінея), Н. Філіпаву (Амур), С. Раманаву (Мерседэс), Л. Ціткову і Н. Цярэнцьеву (сяброўкі Кітры), Я. Мініна (Ларэнца), А. Няцветава і С. Філіпенку (Дон Кіхот і Санча Панса). Чысціня і роўнасць выканання кардэбалетам сваіх сцэн сведчыць пра вялікую працу асістэнтаў балетмайстра, рэпецітараў Д. Браўдэ і А. Смалянскага.

Яркім, жыццярадасным спектаклем папоўніўся рэпертуар нашай балетнай трупы, у якой, дарэчы, наперадзе вялікія замежныя гастролі. Такі спектакль не сорамна паказаць і на еўрапейскіх сцэнах. Зрэшты, тэатр спадзяецца, што балет спадабаецца перш за ўсё беларускім гледачам, для якіх ён перадусім і існуе. І, мяркуючы па рэакцыі залы на першых паказаных спектаклях, тэатр не памыліўся ў сваіх спадзяваннях.

**Юлія ЧУРКО.**

**ПРЭМ'ЕРЫ**



**У Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбылася прэм'ера спектакля «Памінальная малітва» Р. Горына паводле твораў Шолам-Алейхема (пераклад У. Някляева). Паставіў спектакль заслужаны дзеяч мастацтваў УССР Б. Эрын, мастацкае афармленне Б. Краснова, музыка А. Рэнанскага, балейтмайстар лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР С. Дрэчын.**

У ролі Голды заслужаная артыстка БССР Г. ТАЛКАЧОВА.

Фота Ул. КРУКА

*Чытач дзеліцца ўражаннем*

# РАЗВІЦЦЁ — У АДМЕТНАСЦІ

З хваляваннем узяў я ў рукі маленькую кніжачку Уладзіміра Аляхновіча «Легенды кветак», выдадзеную летась у выдавецтве «Полымя». Гэта бадай што адно з першых сучасных выданняў пра беларускія расліны, у якім аўтар спрабуе ў займальнай форме пазнаёміць чытача са светам кветак. Прастата ды займальнасць апавядання сведчаць, што кніга адрасавана ў першую чаргу дзецям. Праўда, у анатацыі пазначана — «масаваму чытачу»...

Хочацца думаць, што распачатая аўтарам справа будзе працягвацца. Добра было б выпусціць цэлую серыю кніжак пра найбольш адметныя расліны Беларусі; кветкі, зёлкі, ягады, грыбы і г. д. І вось з тае перакананасці, што кнігі гэтыя павінны найперш быць адрасаваныя нашым дзецям, варта было б рабіць іх добра ілюстраванымі, з прыгожымі дакладнымі каляровымі малюнкамі. З прыемнасцю ўзгадаў я Людвіку Антонаўну Сівіцкую-Войцік (Зоську Верас) і падумаў: «Вось, пэўна, усцешыцца!» Фактычна мы, беларусы, толькі цяпер дарастаем да таго, што рабілася яшчэ ў 30-ыя гады ў Вільні за так званым польскім часам. Дзіцячыя часопісы «Заранка» ды «Пралеска» рэгулярна змяшчалі матэрыялы пра беларускую прыроду. А Зоська Верас была галоўным спецыялістам па раслінах ды зёлках. Мабыць, нікога не трэба пераконваць, наколькі станоўча ўплывае на разумовае развіццё дзіцяці, на фарміраванне ягоных мастацкіх здольнасцяў знаёмства са светам раслін, са светам найвышэйшае дасканаласці і сугладдзя.

Але за прыемнымі думкамі хутка надышло расчараванне, зашмат усё ж памылак і для першае спробы. Нават самы пачатак і то не абышоўся без недарэчнасцяў. Першая кветка, з якой знаёміць нас аўтар, — **пералеска.** Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе **пралеска,** бо ніякай больш ці менш падобнай на **пералеску** назвы расліны не падаецца ў беларускіх слоўніках. Аўтара, мусіць, увяло ў зман слова пералесак, якое, праўда, мае вельмі ўскоснае дачыненне да красак. Гартаем далей... **Лянівец...** Каго здзівіць гэтая назва, хай марна не шукае гэтую кветку ў беларускіх энцыклапедычных даведніках. Трэба проста набрацца вытрымкі ды прачытаць колькі радкоў ніжэй: «...У многіх месцах яна вядома пад назвай **ядранец...»** Ах, вось яно што... Сапраўды, артыкул пра **ядранец** мы без цяжкасцяў знойдзем хаця б у «Энцыклапедыі прыроды Беларусі». Што ж падштурхнула аўтара назваць ядранец ляніўцам, а лепей было б гультаём ці абібокам? Ці не ягоны расійскі адпаведнік **ленец,** а таксама жаданне прыдумаць апавяданне з такім магутным выхаваўчым сэнсам? «Лянівец», аказваецца, паленаваўся перасяліцца ў больш прыдатнае для жыцця месца, дзе была ўрадлівая глеба і багата вільгаці.

Наступная кветка, з якой знаёміць нас Уладзімір Аляхновіч,—**плакун.** Але ж на малюнку ён падобны на звычайны **чальчак.** Назвы «плакун» або «дербенник» — ягоныя расійскія адпаведнікі. На гэты раз, праўда, легенда, якую падае аўтар, нейкім чынам стасуецца і да беларускага чальчака, якога сям-там называюць **слёзнік.** Сапраўды, нешта ёсць: плакун — слёзнік. Апроч слёзніка, называюць на Беларусі чальчак яшчэ і **крапіўца, баравы бобік, вербяніца, кабыляк, кабылля мятка, тройнік, гаралёўнік, ракавыя шыйкі, ляўконія палявая, цвердзянка** (гл. А. Кісялеўскі, «Лаціна-руска-беларускі батанічны слоўнік», Мн., 1967). Як бачым, шмат назваў, няма толькі плакуна. Ці яшчэ прыклад: «...трыпутнік, ці як яго яшчэ называюць падарожнік...» Хто ж яго так называе? Проста трыпутнік гэта па-беларуску, а падарожнік — па-расійску, бо нават у дыялектных варыянтах назва падарожнік адсутнічае.

Ці вось яшчэ прыклады. Замест таго, каб цікавай гісторыяй дапамагчы запамятаць адмысловую беларускую назву **казялец,** аўтар падводзіць нас да наступнага: «...— казялец — з тае даўняе пары называюць **курынай слепатой...»** Хацелася б даведзіцца да ведама аўтара, што курынай слепатой на Беларусі называюць, прынамсі, з дзесятак раслін, да прыкладу — лотаць, пярэсну, вадаперыцу, дый сам кураслеп. Цікава, што назва «курыная слепата» мае ў беларускага народа асацыяцыю з пэўнай групай знешне падобных раслін, усе яны красуюць жоўтымі кветачкамі і любяць вільготныя глебы.

Нічога страшнага, мабыць, не будзе, калі ў мове нашай замацуюцца прыгожыя, мілагучныя назвы, якія жывуць у дыялектах: **валошка,** а не васілёк, **пацерачка** замест незабудкі, **канвалія,** а не ландыш, **дзьмухавец** замест адуванчыка, **зязюлька** замест венерын чаравічак (відавочная калька: венерин башмачок).

Усе гэтыя хібы выдання ёсць прамы вынік стану «развіцця» беларускай навуковай тэрміналогіі. Па-першае, няма самога развіцця. Для прыкладу, апошняе больш ці менш грунтоўнае выданне назваў раслін выйшла ў 1967 г. (гл. вышэйзгаданы слоўнік), 10 тысяч асобнікаў на 10-ці мільённы народ! А падругое, шлях, які прапануюць для развіцця беларускай тэрміналогіі, ёсць нішто іншае, як далейшае разбурэнне моўнай стыхіі беларускай мовы. Я маю на ўвазе кнігу «Беларуская навуковая тэрміналогія» 1987 года выдання (аўтарка — Л. А. Антанюк). Каму патрэбны «исковерканный русский язык»? Развіццё толькі ў арыгінальнасці і адметнасці.

**А. ГУРКОЎ,**
**студэнт лесагаспадарчага факультэта БТІ.**

*Інтэрв'ю ў нумар*

**Неўзабаве ў газетна-часопісным свеце рэспублікі чакаецца папаўненне. Да чытача прыйдзе «Спадчына» — навукова-папулярны і гістарычны часопіс Беларускага фонду культуры і Беларускага рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, рашэнне аб выданні якога прыняло нядаўна Бюро ЦК КПБ.**

**Пра тое, якім бачыцца новы часопіс, наш карэспандэнт гутарыць з яго галоўным рэдактарам, старшынёй праўлення БФК Іванам ЧЫГРЫНАВЫМ.**

# Вы падпісаліся на «Спадчыну»?

— Новы часопіс ствараецца на базе інфармацыйнага навукова-метадычнага бюлетэня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі — «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», за дзевятнаццаць з палова гадоў існавання якога выйшла ў свет 78 нумароў. Наступны, чарговы нумар яго, што павінен прыйсці да чытача недзе ў верасні, будзе ўжо часопісам «Спадчына». Памер выдання павялічваецца пакуль што да 8,3 аўтарскіх аркуша, а перыядычнасць застаецца ранейшая — чатыры разы на год. Кошт аднаго экземпляра будзе 60 капеек, адпаведна падпісная цана на год — 2 рублі 40 капеек. Думаю, аднак, што неўзабаве ўдасца павялічыць і аб'ём часопіса, і яго перыядычнасць, зрабіць яго нарэшце сапраўдным часопісам.

Новае выданне ў пэўным сэнсе стане спадкаемцам часопіса «Наш край», які выходзіў у дваццатыя гады. Гэта, як вядома, быў перыяд, калі заснаванне беларускай савецкай дзяржаўнасці па-сапраўднаму спрыяла адраджэнню гістарычнай і нацыянальнай памяці народа. Выдаваўся не толькі «Наш край», адзін за адным выходзілі калектыўныя гістарычныя і краязнаўчыя зборнікі, у якіх змяшчалася шмат архіўных матэрыялаў. Я не кажу ўжо аб тым, што якраз у гэты перыяд было напісана і нямала мастацкіх твораў, аўтары якіх імкнуліся па-свойму асэнсаваць мінулае. Няхай гэта ім не заўсёды ўдавалася зрабіць на адпаведным узроўні, тым не менш, справа рушылася з месца, прыходзілі гісторыкі, каб сказаць праўду пра свой народ. Беларусі і беларусам па сутнасці вярталася іх тысячагадовая гісторыя. А гісторыя гэтая вартая гісторыі любой еўрапейскай высокаразвітой нацыі.

**— На жаль, хутка ўсе гэтыя памкненні вярнуць гісторыю, вярнуць памяць былі кваліфікаваны не інакш як «нацыяналізм»...**

— Сапраўды, згуртоўваліся лепшыя нацыянальныя сілы, каб адрадзіць усё, што варта памяці нашчадкаў. Але разам з тым не дрэмалі і сілы, якія ва ўсе часы, бадай, дзейнічаюць прыкладна аднолькава. Абы чаго не выйшла, а таму — не дазволіць, забараніць, спыніць дзейнасць. Ужо ў 1929 годзе тагачасны рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, вучоны з сусветным іменем, прафесар У. І. Пічэта павінен быў прыкладаць намаганні, каб неяк выратаваць арыштаваных выкладчыкаў, сярод іх большасць былі гісторыкі. Арышт аднаго нявіннага чалавека — злачынства. А тут, без якіх-небудзь на тое падстаў, арыштавалі некалькі дзесяткаў вучоных.

Вядома, да чаго прывялі спробы процістаяць беззаконню — праз год арыштавалі... самога Пічэту. У 1931 годзе канчае жыццё самагубствам прэзідэнт Акадэміі навук БССР У. М. Ігнатоўскі. Паступова раскручваўся махавік сталінскіх рэпрэсій. Ганьбаваліся не толькі сучасныя барацьбіты за права развівацца нацыянальнай літаратуры, мастацтву, тэатру, культуры, — чапляліся «бірачкі» на Францыска Скарыну і Сімяона Полацкага, абвінавачванне іх, як сярэдневечных манахаў, зневажаўся Кастусь Каліноўскі. Хіба гэта не свайго роду рэпрэсіі?!

На жаль, падобнае нігілістычнае стаўленне да ўсяго нацыянальнага працягвалася і ў нядаўнім мінулым. Галоўная задача часопіса «Спадчына» якраз і заключаецца ў тым, каб выхаваць любоў да мінулага народа, памагчы чытачу спасцігнуць сапраўдную, праўдзівую гісторыю. У сувязі з гэтым мне прыгадваецца драматычная паэма Юсцінаса Марцінкявічуса «Міндаўгас», яе персанажы — Белы і Чорны летапісцы. Белы летапісец імкнецца да сапраўднай гістарычнай праўды, без прыхарошвання мінулага, але і без ачарнення яго. Інакш дзейнічае Чорны летапісец. Ён таксама, як быццам, хоча несці новым пакаленням праўду. Але гэта праўда падаецца такой, якой яна выгаднаваладарам. Інакш кажучы, занатоўваецца звычайная хлусня, але афарбаваная ў прыемныя тоны.

**— Значыць, часопіс «Спадчына» і павінен стаць, калі карыстацца вызначэннем Юсцінаса Марцінкявічуса, «Белым летапісцам» гістарычнага мінулага беларусаў!**

— Можна і так сказаць... Аднак сённяшняе жыццё ў розных яго праявах, сучасная культура на старонках часопіса таксама будуць знаходзіць шырокае адлюстраванне. Што ж датычыць зместу першых нумароў, то, думаю, шырокага чытача зацікавяць падрыхтаваныя нашым вядомым гісторыкам А. Грыцкевічам матэрыялы, якія сведчаць аб стаўленні Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса да Беларусі. Не трэба ж забываць, што тыя мясціны ў працах класікаў марксізму-ленінізму, дзе было штосьці «нязручнае», з лёгкай рукі «правадыра ўсіх народаў» проста ігнараваліся навукоўцамі. Цяпер жа сама час даведацца, што Маркс і Энгельс думалі пра Беларусь. В. Круталевіч прапанаваў цікавы артыкул пра першы беларускі ўрад на чале з Жылуновічам.

**— Не адмаўляючы ўсяго добрага, што зроблена бюлетэнем «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», нельга не адзначыць, што ўсё ж з-за свайго памеру і скіраванасці найперш на інфармацыйнасць матэрыялаў ён пакідаў па-за ўвагай літаратурныя творы, у якіх асэнсоўваюцца пэўныя перыяды мінуўшчыны. Відаць, «Спадчына» ліквідуе гэты прагал!**

— Чытачы, канечне, ужо ведаюць, што раман-эсэ А. Лойкі пра Францыска Скарыну пабачыў свет у папулярнай серыі «Жизнь замечательных людзей», якую выпускае выдавецтва «Молодая гвардия». Але падобныя кнігі адразу пасля іх выхаду становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю. Таму мяркуем надрукаваць урывак з гэтага твора. Калі ўжо гаворка зайшла пра Скарыну, дык 500-годдзе з дня яго нараджэння будзем адзначаць шырока. У рэдакцыйным партфелі, напрыклад, ужо ёсць артыкул І. Юхо «Скарына і прававая культура Беларусі».

Што тычыцца літаратурных твораў, дык «Спадчына» іх будзе друкаваць абавязкова. Паабяцалі нам апавяданні, урыўкі з аповесцяў В. Іпатава, У. Арлоў, А. Петрашкевіч, К. Тарасаў, С. Зайцаў і іншыя пісьменнікі. Сучасны чытач зможа адчуць таксама вабнасць паэзіі таго ж Францыска Скарыны альбо Кірылы Тураўскага, пазнаёміцца з творамі Сімяона Полацкага, Яна Баршчэўскага. Варта вярнуцца да нарысаў і апавяданняў А. Сержпутоўскага. Не абмінём увагай працы М. Доўнар-Запольскага, У. Ігнатоўскага, М. Шчакаціхіна, У. Пічэты...

У планах рэдакцыі — пазнаёміць чытачоў з беларускімі летапісамі і хронікамі, такімі помнікамі пісьменства, як «Пахвала Вітаўту», «Хаджэнне ў Царград і Іерусалім смаленскага дзяка Ігната», «Аповесць пра Жыгімонта і Барбару Радзівіл». Першы крок у гэтым кірунку «Спадчына» зробіць, змясціўшы паэму удзельніка Лівонскай вайны Андрэя Рымшы «Дэкатэрас Акраама, або Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў... Крыштафа Радзівіла».

Апрача такой публікатарскай дзейнасці, наш часопіс мяркуе весці дыскусіі па розных пытаннях гісторыі, культуры, архітэктуры, мастацтвазнаўства, каб у сутыкненні поглядаў, часам процілеглых, палярных, дайсці да ісціны, пазбавіцца «белых плям» гісторыі. І не будзем замыкацца на беларускім матэрыяле. Прадстаўнікі іншых народаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, таксама не будуць абдзелены ўвагай. Але іх гістарычныя і культурныя дасягненні будуць разглядацца, так сказаць, у беларускім кантэксце, на фоне міжнацыянальных узаемасувязей.

Вызначыць кола ўсіх пытанняў, якія трапяць у поле зроку рэдакцыі сёння, зразумела, цяжка. Пакуль што ёсць асноўныя арыенціры. Многае, спадзяюся, падкажуць нашы чытачы, калі атрымаюць першыя нумары «Спадчыны». Таму хочацца звярнуцца да будучых сяброў «Спадчыны» — пішыце нам, дасылайце матэрыялы асабістых архіваў, пісьмы, дакументы... Усе разам будзем вяртаць праўду пра нашу гісторыю.

# КАБ ЧАЛАВЕК УСМІХАЎСЯ

Я хацеў бы пагаварыць пра стан нашай беларускай сатырыка-гумарыстычнай літаратуры. У яе багатыя традыцыі. Няма сэнсу пералічаць усё, што было створана і вядомымі і невядомымі аўтарамі.

І цяпер зрэдку з'яўляюцца зборнічкі гумарыстычных апавяданняў, пародый і г. д. У многіх з іх даволі сумны лёс. Як правіла, яны асядаюць у бібліятэках, так і не знайшоўшы свайго чытача. І справа не столькі ў тым, што яны напісаны на беларускай мове, а ў тым, як мне здаецца, што ў іх няма ні глыбіні, ні гумару.

На маю думку, задача сатырыка-гумарыстычнай літаратуры заключаецца не толькі ў тым, каб змагацца, як гэта звычайна пішуць, супраць бюракратаў, гультаёў, п'яніц, кар'ерыстаў і г. д. Яе задача яшчэ і ў тым, каб памагчы засмяяцца звычайнаму чалавеку, зацюканаму, замучанаму вялікімі і малымі чарнобылямі, чэргамі, безкватэр'ем, нашым «цудоўным» медыцынскім абслугоўваннем і многім іншым. Людзі засамоціліся, развучыліся проста ўсміхацца, радавацца.

Што мне хацелася б прапанаваць:

1. Было б добра арганізаваць на Беларускім тэлебачанні перадачу тыпу ўсесаюзнай «Вакол смеху». Неабавязкова капіраваць, але пажадана, каб гэта перадача была на высокім узроўні і насіла нацыянальны характар.

2. Пажадана, каб у нашых тоўстых часопісах (напрыклад, у «Нёмане») з'явіліся аддзелы сатыры і гумару. Прыклад: часопісы «Москва» і «Аврора», «Урал» і іншыя.

3. Замест эпізадычных «гумарыстычных» кніжак выдаваць 3—4 разы ў год зборнік сатыры і гумару, дзе было б сабрана ўсё лепшае, што было надрукавана ў перыядычным друку. Важна, каб гэты зборнік быў добра зроблены, каб у ім знайшлося месца і гумарыстычнаму малюнку, карыкатуры. Зборнік можа быць двухмоўным—гэта ўжо па жаданні аўтараў.

4. Выдаць на беларускай мове бібліятэку сусветнай сатырыка-гумарыстычнай літаратуры. Скажам, у 5—10 тамах, не больш. Сюды можна было б уключыць і нашу багатую беларускую спадчыну, і творы рускіх і замежных пісьменнікаў.

5. Чаму б «Вожыку» не праводзіць рэгулярна конкурсы сярод чытачоў на лепшае гумарыстычнае апавяданне, верш, фельетон, малюнак? Трэба шукаць здольных аўтараў. А рэдакцыя «Вожыка» з гэтым справіцца, таму што ён вельмі змяніўся ў апошні час. Цяпер гэта часопіс вельмі добрага ўзроўню.

І апошняе. Мы ўсе, многія ва ўсякім выпадку, перажываем за лёс нашай беларускай мовы. Спадзяюся, яна нарэшце стане дзяржаўнай.

**М. ЦІТОЎ.**

г. Мінск.

## *Да стагоддзя з дня нараджэння*

**Анна АХМАТАВА**

### *Казка пра чорны пярсцёнак*

**1**

Ад бабулі, што з татарак,
Быў мне дар — як сто
прыманак...
Што хрышчона я ў царкве —
Жалкавала яна век.
Калі ж смерць сваю сустрэла —
Першым разам падабрэла.
І ўздыхнула:
— Эх, гады!
Хто не быў з нас маладым,
Ганарлівым, адрачоным?!
Вось у дар — пярсцёнак чорны,
Знай, унучка, ён з табой
Радасць зведае і боль.

**2**

Я сябрам сваім сказала:
— Гора многа, шчасця мала.
І слязой закрыла дзень:
— Мой пярсцёнак чорны дзе?

І сябры мне адказалі:
— Мы пярсцёнак твой шукалі
Каля мора, на пяску,
І за соснамі ў лужку...
І за мной пайшлі ў алею —
Там на словы пасмялелі,
Загадалі, каб адна —
Засталася да цямна.
Толькі я парадам жаркім
Адказала едкім жартам,
Шчыры позірк аднаго
Адвяла, нібы агонь...
— Вам бы тайна насміхацца,
Твар да твару выхваляцца,
Кветкі ў рукі мне дарыць, —
Вас хачу я ўсіх забыць.

**3**

І ў святліцы над падушкай,
Як драпежлівая птушка,
Застагнала, скамянела,
Соты ўспомніць раз хацела:
За вячэрай як сядзела,
І ў віры вачэй глядзела,
Як не ела, не піла
Ля дубовага стала,
Пад абрус пярсцёнак чорны
Як рукой незаручонай
Працягнула смела тому,
Хто майго не ўспомніць дому.

. . . . . . . . . .

Не прыйсці ка мне з находкай!
Наўздагон за плыннай лодкай!
Ветразь ветразя гукаў.
Позірк позірка шукаў.
1917—1936

### *Шляхам усёй зямлі*

В санях сидя, отправляясь путем всея земли..
(Поучение Владимира Мономаха детям).

**1**

Кулям жывым пад ногі
Кінуся.
І праз гады —
Па росах, снягах трывогі
Тайна зайду туды...
Ніхто не заўважыць ранку,
Крык не пачуе мой,
Мяне, кіцяжанку,
Гукнулі дамоў.
І беглі за мною
Сто тысяч бяроз,
Шкляною сцяною
Струменіў мароз.
Тых дзён, як тавараў,
Развуглены склад...
— Вось пропуск, таварыш,
Пусціце назад,
Ды воін спакойна
Адводзіць штык.
Вяснова, замоўна
Той востраў узнік!
Чырвоная гліна,
Расквечаны сад...
З-пад аквамарына
Гарыць далягляд.
Сцяжыны трохвусце
Баюся пазнаць.
Мне трэба камусьці
Руку тут падаць...
Ды хрыплай шарманцы
Не вернецца стогн.
Не той кіцяжанцы
Прымроіўся сон.

**2**

Акопы, акопы —
Блуканні ў вачах!
Ранейшай Еўропы
Шмаццё на плячах:
Пад воплескі дыма
Гарэць гарады...
І вось ужо Крыма
Цямнеюць сляды.
Я плакальніц стаю
Вяду за сабой.
О, ціхага краю
Разбуджаны боль!..
Над мёртвай мядузай
Знямела стаю;
Сустрэлася з Музай —
Ёй клятву даю.
Жартуе здалёку,
Смяецца слязьмі:
— Вясну з-пад аблокаў
Радкамі вазьмі...
І вось ужо славы
Высокі парог,
Ды голас гаркавы
Над словам знямог:
— Сюды, знай, вяртацца
Табе — многа раз.
Вачмі разбівацца
Аб цвёрды алмаз.
Чакай, маладзёна,
Вярніся назад,
Чарнёна, хвалёна,
Бацькаў тут сад.

**3**

Вячэрняй парою
Смялее імгла.
Хай Гофман за мною
Ідзе да вугла.
Ён помніць: як гулкі
Задушаны крык.
Як ценямі вулкі
Пралікнуў двайнік.
Хіба гэта жарты,
Што дваццаць пяць год
З аблíччам упартым
Мне бачыць яго?!
— Так, значыць, направа?
Вось тут, за вуглом?
Што ж, дзякуй!
— Канава
І лялечны дом;
Вось дзіва, што месяц
Пра тайны ўсе знаў:
Ён з вужавых лесвіц
Святло разліваў.
Зноў ціха абходзіць
Пакінуты дом,
Дзе ноч на зыходзе
За круглым сталом
Глядзела ў разломы
Ад люстраў старых,
І прыцем знаёмы
Нож сніў на зары.

**4**

Чысцейшага з гукаў
Высокі загад,
Як быццам разлука
Імкнецца назад:
Будынкі, як вочы,
З-пад смерці глядзяць.
Сустрэчы сірочай
Мне — не мінаваць,
Самотней не зведаць,
Чым лёс здолеў мой...

# ЖЫВЫЯ ПЕРАД МЁРТВЫМІ

Ля ВЁСКІ Мясны Бор пад Ноўгарадам з 29 красавіка па 9 мая праходзіла адзінаццатая Усесаюзная Вахта Памяці. У ёй прыняло ўдзел каля дзвюх тысяч шукальнікаў з усіх куткоў нашай краіны.

9 мая адбылося захаванне воінаў Вялікай Айчыннай, якія загінулі ў грозным 42-м.

**...Начны туман адступаў, хаваючыся ў непраходныя балоты і гнілыя карчы. Зводны хор салаўёў спяваў гімн узыходзячаму сонцу. Паступова ў свядомасць з нарастаючай сілай урываўся гул самаходак...**

Правядзенне Усесаюзнай Вахты Памяці на ноўгарадскай зямлі — гэта своеасаблівы вынік шматгадовай работы. Патрыятычны рух пошукавых атрадаў, асабліва ў апошнія гады, набыў немалую сілу і размах.

«Баі тут былі жорсткія,— расказвае Уладзімір Арлоў, адзін з заснавальнікаў пошукавага руху ў раёне вёскі Мясны Бор. — Аб гэтым сведчыць хоць бы той факт, што з 5550 чалавек 327-й дывізіі ў жывых засталося 123 чалавекі, а з 4400 чалавек 92-й Дальнеўсходней пагранічнай дывізіі — 45 чалавек.

Да 2-й ударнай арміі, на якую выпаў увесь цяжар задачы на прарыве блакады Ленінграда ў студзені 1942 года, стаўленне неадназначнае. У другой палове красавіка 1942 года, замяніўшы хворага камандуючага, яе ўзначаліў Уласаў. Мы ведаем, што ён — здраднік. Але спалучаць яго імя з тысячамі, дзесяткамі тысяч загінуўшых у гэтых мясцінах — бездухоўна. Жывыя павінны ведаць праўду аб мёртвых, якія сумленна выканалі свой салдацкі абавязак.

Стаўленне да пошукавых атрадаў да нядаўняга часу было складанае. Гэта можна растлумачыць тым, што работа шукальнікаў у многім звязана з цёмнымі плямамі нашай гісторыі. Некаму хацелася забыць, выкрасліць з памяці велізарныя неапраўданыя страты, бессэнсоўныя і непрадуманыя аперацыі, нечы кар'ерызм і абыякавыя адносіны да чалавечых жыццяў...

У дваццаці метрах ад просекі са слупом ДКЕ-88, 1—2, 15 га загінула рота. У тыя далёкія вогненныя дні сорак другога яе накрыла мінамётным агнём. У 80-я гады гэтыя мясціны ўзаралі пад лесапасадкі.

**...Надрыўна гудзе матор. Гэты гук звыкла ўвайшоў у свядомасць. Ён закалыхвае, атупляе. Па брызентавым даху барабаняць галінкі. Хутка месца высадкі...**

Дарэчы, у гэтых мясцінах адчуваюць сябе ў бяспецы марадзёры, або, як іх тут называюць,— «чорныя» атрады. Гэтыя групы блукаюць па былых мясцінах баявых дзеянняў у пошуках зброі, боепрыпасаў, эсэсаўскіх бляшак і армейскай амуніцыі. Яны не грэбуюць набіваць мяшкі чарапамі, а кішэні залатымі зубамі — на чорным рынку ўсё ідзе ў ход!

Сустрэча з імі далёка не небяспечная. Яны могуць з п'янай усмешкай, наставіўшы «рулі», прымусіць адкачаць варонку, каб сабраць з дна рэчы, якія цікавяць іх. Могуць пальнуць для забавы над галавой з абрэза ці, пакідаючы стаянку, пакласці ў вогнішча міну або гранату.

Вельмі цяжка змагацца супраць такіх груп. Месцы баявых дзеянняў не трапляюць пад ахову дзяржавы. Хоць гэта помнікі нашай бліжэйшай гісторыі.

Сёння пошукавыя атрады — рэальная сіла, якая ўзяла на свае плечы нялёгкі цяжар работы па вышуку загінуўшых людзей. Імі рухае просты чалавечы абавязак.

Розных людзей сабрала Вахта для правядзення гэтай высакароднай работы — дырэктара школы з Паўднёва-Сахалінска, рабочага з Масквы, археолага з Кіева, былога «афганца» з Обнінска, майстра ПТВ з Мінска, настаўніка з Запарожжа, ваеннаслужачага з Эстоніі.

На гэты раз у яе арганізацыі памаглі ЦК ВЛКСМ, Міністэрства абароны, Усесаюзны савет ветэранаў вайны і працы, Ленінградская ваенная акруга. Многае, чаго раней не хапала шукальнікам, нарэшце, з'явілася — ваенная тэхніка, палаткі, палявыя кухні, радыё- і тэлефонная сувязь.

**...Пасля рокату, гары, гайданкі — лес сустракае звонкай цішынёй, напоўненай спевамі птушак і глухімі ўздыхамі балотных газаў. Хлюпае пад нагамі жыжка. Шукальнікі выходзяць у зададзены квадрат...**

Піск у навушніках сведчыць пра наяўнасць металу. Следапыты зразаюць дзёран. У халоднай балотнай кашы шукаюць астанкі салдата, дастаюць косці, праціраюць пальцамі зямлю ў спадзяванні знайсці медальён. Але часцей за ўсё мёртвыя маўчаць. Толькі зрэдку адгукаюцца скупымі словамі і літарамі, выразанымі на розных прадметах франтавога побыту. Вось яны, некаторыя надпісы: «Райшар Міша», на другім баку «Траццякоў»; на нажы — «Уліцін Г. І.»; на муштуку — «В. Сяргееў»; на фляжцы — «Чуйкоў»; медаль «За баявыя заслугі», № 34333; «Пеця Ф., 1941»; «Вова»...

Знаходзіш гэтыя прадметы і не можаш не думаць пра двухсэнсоўнасць фармуліроўкі «прапаўшы без вестак», прыдатнай толькі ў ходзе баявых дзеянняў ці ў дзесяцігадовы тэрмін



